6 ліпеня 2018 | № 25 (588)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144






Куды перанесці сталіцу Літвы? Стар. 9



# Небяспечная гісторыя

## Хто дае падставы для «прыватызацыі перамогі»?



Сяргей ПУЛЬША

Яшчэ нядаўна Аляксандр Лукашэнка казаў пра недапушчальнасць прыватызацыі перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне ў прыватнасці і скажэння гісторыі ў цэлым. І вось не вельмі прыемны падарунак да свята зрабіў беларускаму калегу Уладзімір Пуцін.

Згодна яго ўказу, 6-ы танкавы полк расійскай арміі атрымаў ганаровае найменне «гвардзейскі Львоўскі», 68-ы танкавы полк — «гвардзейскі Жытомірска-Берлінскі», а 163-ы танкавы полк — «гвардзейскі Нежынскі». Яшчэ тры часткі атрымалі назвы гарадоў Беларусі: 90-я гвардзейская танкавая Віцебска-Наўгародская дывізія — Віцебска, 856-ы гвардзейскі самаходны артылерыйскі Кобрынскі полк — Кобрына і 102-і мотастралковы слонімскага-памеранскі полк — Слоніма.

Афіцыйна назвы ўкраінскіх і беларускіх гарадоў былі ўключаныя ў ганаровыя найменні частак у памяць пра іх удзел у вызваленні гэтых гарадоў падчас Вялікай Айчыннай вайны. А неафіцыйна расцаніць гэта можна, як «поўху» Аляксандру Рыгоравічу. Маўляў, колькі ты ні кажы пра «савецкі народ», але «прыватызацыя гісторыі» ідзе і ісці будзе.

Прычым, украінскі Генштаб з гэтай нагоды выказаўся адназначна: гэта «агучванне прэтэнзій на землі іншых народаў» і «крадзеж чужой гісторыі і славы». Беларускія афіцыйныя асобы маўчаць.

Можна падумаць, што гэта нязначны інцыдэнт у двухбаковых адносінах. Ну, будуць насіць расійскія вайсковыя часткі назовы беларускіх гарадоў — і што? А насамрэч, «прыватызацыя гісторыі» — рэч вельмі небяспечная. Сёння Віцебск — у назве вайсковай часткі іншай краіны, а заўтра горад назавуць расійскім...

Насамрэч, гэта больш глабальнае пытанне, якое тычыцца, найперш, нас. Праводзіць падобныя «пературбацыі» дазваляюць беларускія ўлады сваім не тое што абыякавым — зняважлівым стаўленнем да гісторыі. А гісторыя — рэч складаная. Калі мы ад яе адмаўляемся, яна непазбежна стане часткай гісторыі іншай краіны. І будзе працаваць ужо супраць нас.

Падавалася б, нельга казаць пра нашу «адмову». Вось, напрыклад, адкрылі шматпакутны мемарыял у Трасцянцы, аж з удзелам прэзідэнта Германіі Штайнмаера і прэзідэнта Аўстрыі Ван дэр Белена. Але гісторыя — гэта як чалавечае жыццё, якое не можа складацца толькі з перамогаў і шчаслівых момантаў. Гэта і боль, і няшчасці, і пакуты, і расчараванні...

**Менавіта адмаўленне гісторыі ёсць складовай часткай падзей кшталту данбаскай «рускай вясны»**




Дзеля ўрачыстага адкрыцця ў тым жа Трасцянцы знеслі крыж у памяць ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага, забітага там нацыстамі ў 1942 годзе. А разам з ім — яшчэ два: у памяць ахвяраў савецкіх рэпрэсіяў, расстраляных тут жа ў чэрвені 1941 года. З аднаго боку — гісторыю «шануем», адкрываем мемарыял, з іншага — прыбіраем і забываемся на «непрыемныя моманты».

Супрацьстаянне ў Курапатах вакол рэстарацыі «Паедзем, паядзім» таксама яскрава характарызуе дзяржаўнае стаўленне да гісторыі. Не ў тым, што дзяржаўныя органы дазволілі там будаўніцтва, вылучылі зямлю, зменшылі ахоўныя зоны і гэтак далей, а грамадства ўсяму гэтаму супрацьстаіць. А ў тым, што пакуль неабыякавыя грамадзяне заклапочаныя Курапатамі, тая ж дзяржава пачала «рэарганізацыю» Вайсковых могілак у Мінску. У выніку чаго можа знікнуць тая гісторыя, якую на афіцыйным узроўні нібыта шануюць, і нават ставяць у пачатак беларускай незалежнасці.

Знос пахаванняў на Вайсковых могілках атрымаў менш рэзанансу. Па-першае, з-за таго, што ўвага грамадскасці прыкутая да Курапатаў. А па-другое, з-за таго ж абыякавага стаўлення да гісторыі.

Зразумела, чаму так званыя «нацыяналісты» заклапаціліся Курапатамі — гэта для іх святое месца. А вось наконт Вайсковых могілак нешта я не чуў абурэння камуністаў. Між тым, як высветлілася, у Мінску 1–3 ліпеня праходзіў пленум Цэнтральнага савета Саюза камуністычных партый — Камуністычнай партыі Савецкага Саюза (СКП-КПСС). На мерапрыемства з'ехаліся такія зоркі, як расійскі Зюганаў, украінскі Сіманенка, былы лідар беларускіх камуністаў Карпенка, які адначасова ёсць міністрам адукацыі, іх прывітаў і Лукашэнка... Але хто-небудзь з гэтых выбітных асобаў заклапаціўся тым, што адбываецца на Вайсковых могілках?

Не. Яны заклапочаныя «фашызмам, які нарадзіўся ў Еўропе і пагражае свету ва Украіне» (з прамовы журналістам Зюганава). Як гэта нагадвае стары анекдот: «ЗША ўмешваюцца ва ўнутраныя справы Савецкага Саюза па ўсім свеце»...

Гісторыю можна параўнаць з непадзельным арганізмам: адразаеш адно — пашкодзіш іншае. Калі беспакарана зносіцца крыж Гадлеўскаму, гэта дае маральны дазвол так жа беспакарана зносіць Вайсковыя могілкі. Калі ўлады выкрэсліваюць з гісторыі Курапаты, яны даюць падставу іншай дзяржаве прысабечваць назвы беларускіх гарадоў. То бок, «прыватызаваць» гісторыю.

А за «прыватызацыяй» гісторыі цалкам можа настаць чарга краіны. Прынамсі, менавіта адмаўленне гісторыі ёсць складовай часткай падзей кшталту данбаскай «рускай вясны».

# «Будзьце ж вы вартымі герояў 25 сакавіка!»

НЧ

**Сябры Аргкамітэту 100-годдзя БНР дадаткова звярнуліся да старшыні Мінскага гарвыканкама Андрэя Шорца з нагоды бюракратычнай затрымкі ўсталявання мемарыяльнай дошкі, прысвечанай 25 сакавіка 1918 года.**

«Як бачна з паведамленняў айчыннай прэсы, патрыятычная частка грамадства з вялікім энтузіязмам успрыняла навіну аб магчымасці ўсталявання мемарыяльнай дошкі на доме па адрасе вул. Валадарскага, 9. Беларускі саюз мастакоў правёў сваю работу па ўнясенні карэктываў у тэкст дошкі і адліўкі яе з бронзы, ён выканаў гэтую работу на "выдатна". На адліўку дошкі з бронзы патрыёты Беларусі сабралі неабходную суму за тры гадзіны. Гэты патрыятычны чын унікальны ў сваім родзе і варты таго, каб быць занесеным у кнігу рэкордаў Гінеса (такую заяўку мы падамо), не гаворачы ўжо пра звычайную ўдзячнасць, і з боку ўладаў таксама», — адзначаецца ў лісце.

«Дык будзьце ж і вы вартымі тых герояў, якія прынялі 25 сакавіка 1918 года лёсавызначальнае рашэнне для Беларусі. Ужо прайшло тры месяцы ад 25 сакавіка 2018 года, а рашэнне Мінгарвыканкама аб усталяванні мемарыяльнай дошкі дасюль не прынятае. Мы яшчэ раз нагадваем вам пра вашы абавязкі і звяртаемся да вашага беларускага гонару — праявіце смеласць і самастойнасць. Грамадства чакае ад вас важнага рашэння дзеля гонару беларускага народа», — заклікаюць сябры Аргкамітэту.

Ліст падпісалі Радзім Гарэцкі, ганаровы старшыня Аргкамітэта, акадэмік НАНБ, і Мікола Купава, дзейсны старшыня Аргкамітэта.

# Суды над затрыманымі 3 ліпеня

**У скверы на бульвары Талбухіна 3 ліпеня ў 13.00 мела адбыцца «Акцыя вызвалення і салідарнасці», якую арганізоўваў Мікола Статкевіч.**

Несанкцыянаваную акцыю спынілі супрацоўнікі міліцыі ў цывільным. Каля 30 затрыманых удзельнікаў даставілі ў Першамайскае РУУС. Амаль усе былі адпушчаны без складання пратаколаў, але некаторых з іх пратрымалі больш за 6 гадзінаў.

А 4 ліпеня ў судах Мінска судзілі затрыманых на «Дзень Незалежнасці» Вячаслава Сіўчыка, Рыгора Кастусёва, Максіма Вінярскага, Аляксея Туровіча. Але судзілі іх за абарону Курапатаў.

Мікола Статкевіч 3 ліпеня на месца збору так і не прыйшоў. Яго затрымалі а 11:30, калі ён выходзіў з дому. Судзілі Міколу Статкевіча 4 ліпеня ў судзе Першамайскага раёна. На яго склалі адміністрацыйны пратакол за заклік да ўдзелу ў акцыі паводле арт. 23.34 КаАП Рэспублікі Беларусь. Суддзя Юры Гарбатоўскі асудзіў Мікалая Статкевіча на 40 базавых велічыняў (980 рублёў). Падчас пасяджэння Статкевіч адмовіўся ўдзельнічаць у судзе і папрасіў канвой, каб яго адвезлі даседжваць 10 сутак за 25 сакавіка.

Палітыка аштрафавалі завочна. Суддзя зачытаў, што Статкевіч вінаваты ў закліках да правядзення несанкцыянаванай акцыі: 21 чэрвеня ён размясціў у сацыяльных сетках абвестку з запрашэннем прыходзіць 3 ліпеня на бульвар Талбухіна ў Мінску, каб ускласці кветкі да помніка партызанам і грамадзянам, закатаваных фашыстамі.

Статкевіч пасля прысуду быў вызвалены і аднаасобна ўсклаў кветкі да помніка.

У Першамайскім судзе супрацоўнік міліцыі ў цывільным здымаў на камеру твары прысутных з «групы падтрымкі».

Перад акцыяй 3 ліпеня каля дому быў затрыманы Вячаслаў Сіўчык. Паводле папярэдняй інфармацыі, на палітыка за абарону Курапатаў складзена каля сямі адміністрацыйных пратаколаў. Таксама ў яго засталіся «неадседжаныя» суткі за Дзень Волі. Справу Сіўчыка накіравалі ў суд Цэнтральнага раёна. Судовае пасяджэнне на беларускай мове правёў суддзя Касцян, даўшы Сіўчыку штраф у 50 базавых велічыняў (1225 рублёў).

3 ліпеня быў затрыманы Максім Вінярскі. Ноч ён правёў у ЦІП. У судзе Мінскага раёна Вінярскага асудзілі за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве паўторна на працягу года на 10 сутак.

Старшыню Партыі БНФ Рыгора Кастусёва за ўдзел у абароне Курапатаў суд пакараў штрафам у 30 базавых велічыняў (735 рублёў) па артыкуле 23.34 КаАП.

Таксама, са слоў актывіста Леаніда Кулакова, пад вокнамі актывіста і рэжысёра Аляксея Туровіча з 9 гадзін раніцы 4 ліпеня дзяжурыў сіні мікрааўтобус з людзьмі ў цывільным. Каля 14.00 яго затрымалі недалёка ад свайго дома. Туровіча асудзілі ў судзе Мінскага раёна на 10 сутак.

**Паводле spring96.org**

# Курапаты: 30 гадоў абароны

Марат ГАРАВЫ

**Грамадскасць Беларусі бароніць Курапаты з самага іх адкрыцця.**

З таго дня, калі галоўны рэдактар штотыднёвіка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Літаратура і мастацтва» Анатоль Вярцінскі змясціў у нумары ад 3 чэрвеня 1988 года артыкул мастацтвазнаўцы Зянона Пазьняка і інжынера Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці» з прадмовай Васіля Быкава.

У артыкуле было даказана, што ў лясным урочышчы плошчай больш за 26 гектараў на паўночна-ўсходнім ускрайку Мінску ў 1932–1941 гадах савецкія органы бяспекі расстралялі сотні тысяч ні ў чым не вінаватых людзей. Пра гэтую трагедыю на курапацкіх пагорках і сёння сведчаць каля 510 западзінаў — пахаванні нашых з вамі продкаў і суайчыннікаў.

Свядомыя і сумленныя жыхары Беларусі бароняць Курапаты штодзённа і паўсюдна — ад знявагі, бяспамяцтва і фізічнага знішчэння.

Лінія гэтай абароны праходзіць праз галовы і душы людзей, якія ўсё больш разумеюць, што савецкі таталітарны рэжым знішчаў у Курапатах самых таленавітых, адукаваных і працавітых.

Вось чаму адразу пасля адкрыцця таямніцы ўрочышча яно стала месцам паломніцтва сваякоў і духоўных нашчадкаў бязвінных ахвяраў, якія былі расстраляныя за вольную, незалежную і квітнеючую Беларусь.

Першае шэсце ў Курапаты адбылося ўжо праз 16 дзён пасля знакамітай публікацыі ў «ЛіМе». Менавіта 19 чэрвеня 1988-га каля 5 тысяч чалавек з ініцыятывы лідараў моладзевага нацыянальна-дэмакратычнага руху насуперак забароне ўладаў упершыню прыйшлі ва ўрочышча, каб ушанаваць памяць бязвінна палеглых і асудзіць камуністычны рэжым.

А пасля таго, як Зянон Пазьняк надрукаваў у «ЛіМе» ад 16 верасня 1988-га артыкул «Шумяць над магілай сосны» з вынікамі раскопак у межах адкрытай крымінальнай справы, лідары Канфедэрацыі беларускіх суполак вырашылі арганізаваць шэсце ў Курапаты на Дзяды 30 кастрычніка 1988-га. На гэтай масавай акцыі грамадзянаў упершыню ў пасляваеннай гісторыі БССР быў публічна ўзняты бел-чырвона-белы сцяг. Міліцыя і ўнутраныя войскі сілай, з ужываннем слезацечнага газу, намагаліся разагнаць мітынг. Гэта выклікала абурэнне ў грамадстве. Так Курапаты сталі сімвалам грамадскага супраціву таталітарнаму рэжыму. Ад 1988 года жалобнае шэсце і мітынг памяці ахвяраў усіх палітычных рэпрэсіяў у Курапатах адбываецца на восеньскія Дзяды штогод. Дарэчы, на Дзяды 1989 года ва ўрочышчы з боку МКАД быў узведзены сяміметровы Крыж Пакуты.

Праз Курапаты праклалі ЛЭП і магістральны газапровод высокага ціску, пабудавалі, а затым пашырылі Мінскую кальцавую аўтадарогу, у лясным масіве раскапалі і, відаць, эксгумавалі шмат з выяўленых на сёння пахаванняў, хаваючы сляды злачынстваў.

Толькі праз пяць гадоў пасля адкрыцця Курапатаў дзяржава пад ціскам грамадскасці надала ім статус гістарычна-культурнай каштоўнасці міжнароднага значэння. І толькі праз 16 гадоў зацвердзіла межы зонаў ахоўы, якія вызначаюць рэжымы ўтрымання прылеглых абшараў. Аднак гэтыя межы няўхільна скарачаюцца...

У школьных падручніках гісторыі Беларусі ўвогуле не згадваюцца Курапаты. Ва ўрочышчы зафіксаваныя дзясяткі выпадкаў вандалізму, аднак праваахоўныя органы ані разу не затрымалі злачынцаў. А калі ў 2008 годзе іх затрымалі грамадскія актывісты, чыноўнікі зрабілі ўсё, каб злачынцы засталіся непакаранымі. У 1989 годзе беларускі ўрад прыняў пастанову аб узвядзенні ў Курапатах помніку, але гэтая пастанова не выкананая і па сёння.

Людзі самі ўшанавалі ў Курапатах памяць ахвяраў НКУС, у тым ліку сваіх дзядоў і бацькоў, месца спачыну якіх невядомае. Ва ўрочышчы цяпер — больш за тысячу крыжоў, пастаўленых людзьмі з усёй Беларусі. Мемарыяльны камень у Курапатах узвялі беларускія габрэі, ёсць крыж памяці ад палякаў, стаіць помнік ад амерыканскага народу — мемарыяльная лава, якую перадаў прэзідэнт ЗША Біл Клінтан. У 2013 годзе на сродкі архітэктара Маі Кляшторнай, дачкі расстралянага ў 1930-я гады пісьменніка Тодара Кляшторнага, па перыметры Курапатаў усталяваны 11 ахоўных памежных камянёў. Такім чынам, менавіта грамадства ўзвяло ва ўрочышчы народны мемарыял і даглядае яго.

Неабыякавая моладзь зімой 2001–2002 года абараніла ўрочышча ад наступу будаўнікоў падчас пашырэння МКАД. Грамадскасць спыніла планы будаўніцтва на полі паміж Курапатамі і «Экспабелам» катэджнага пасёлку «Сонечны» з праваслаўнай царквой. Менавіта грамадскасць сістэматычнымі захадамі, у тым ліку судамі, ліставаннем да чыноўніцтва і зваротамі да супольнасці больш за пяць гадоў стрымлівала адкрыццё незаконна і самавольна ўзведзенага ля заходняй мяжы ўрочышча забаўляльнага комплексу з першапачатковай назвай «Бульбаш-хол». Менавіта грамадства дамаглося ўключэння ў ахоўную зону Курапатаў «Дарогі смерці», па якой у 1930-я гады людзей везлі ў на расстрэл.

І на новыя выклікі супраць Курапатаў павінна адказаць грамадства. Трэба адвесці ад мемарыяльнага курапацкага лесу экалагічную пагрозу, якая ідзе ад далейшай забудовы навакольля. Трэба спыніць маніпуляцыі з межамі ахоўных зонаў, якія выкарыстоўваюцца, каб пачынаць чарговае будаўніцтва, накшталт спробы леташняга ўзвядзення офіснага будынку з паўднёвага боку Курапатаў.

Шмат высілкаў спатрэбіцца, каб уключыць «Дарогу смерці» ў склад каштоўнасці, правесці Міжнародны адкрыты грамадскі конкурс на найлепшую ідэю мемарыялізацыі Курапатаў, адкрыць імёны забітых ва ўрочышчы людзей і належна ўшанаваць іх памяць, пабудаваць міжканфесійную капліцу і адчыніць Музей ахвяраў сталінізму, урэшце, зрабіць так, каб пра нацыянальны некропаль змог даznaцца кожны жыхар краіны. Менавіта пра гэта марацьсёння тыя, каму баліць Курапаты.

Абарона Курапатаў ад знявагі, бяспамяцтва і фізічнага знішчэння працягваецца...

# Слуцкія Курапаты: месца адпачынку будзе перанесена

Марыя ВЕРАС

**Слуцкі лясгас перанясе зону адпачынку з месца сталінскіх расстрэлаў у іншае месца.**

Грамадскія актывісты атрымалі адказ Слуцкага лясгаса на зварот Зінаіды Цімошак наконт таго, што лясны масіў каля вёскі Каліта — гэта трагічнае месца масавых расстрэлаў нявінных людзей у часы сталінскіх рэпрэсій. Таму трэба адтуль прыбраць зону адпачынку, каб не здзекавацца з памяці трагічна загінуўшых ахвяр.

У адказе дырэктар лясгаса Мікалай Ражкоў паведаміў, што месца адпачынку будзе перанесена з лясного масіву каля вёскі Каліта Слуцкага раёна ў іншае месца Урэчскага вопытна-вытворчага лясніцтва.

«Добра, што дырэкцыя лясгаса прыняла такое рашэнне, — гаворыць актывістка. — Лічу, што ў кіраўніцтве Слуцкага лясгаса знаходзяцца адэкватныя і вельмі прыстойныя людзі, паколькі яны не сталі адстойваць іншую пазіцыю. Не трэба ладзіць ніякіх дадатковых акцый у абарону месца пахавання — і гэта нармальна для сумленных людзей. Усё цывілізаванае грамадства з жахам сочыць за тым, што адбываецца каля Курапатаў. Адны гатовы памерці за тое, каб не зганьбілі месца трагедыі, а другія спакойна ідуць у рэстарацыю, каб паесці, гледзячы на крыжы нявінным ахвярам».

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Скажы мне, хто твой сябра…

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Пакуль улады святкавалі 3 ліпеня, усе астатнія разважалі, наколькі моцная ў нас краіна і што пагражае беларускай незалежнасці. Ужо сама пастаноўка пытання выклікае занепакоенасць. Бо, каб незалежнасці і суверэнітэту не пагражала нічога, і пытання такога б не было, праўда?**



Фота www.pikabu.ru

Вайсковы парад у Мінску павінен быў прадэманстраваць нашую ваенную моц і магчымасць абараняць Беларусь. У той жа час пасол Беларусі ў Маскве Ігар Петрышэнка даў журналістам разгорнутае інтэрв'ю, якое расцягнулі на цытаты. Па яго меркаванні, прапанова Польшчы размясціць на сваёй тэрыторыі амерыканскую бранятанкавую дывізію не нясе пагрозы для Беларусі, а тэма расійскай ваеннай базы ў Беларусі на сёння не з'яўляецца актуальнай.

«У дачыненні да таго, што вы кажаце па дывізіі ЗША, гэта права суверэннай дзяржавы. Калі Польшча бачыць, што яе бяспека за кошт гэтага ўзрасце, то яна павінна дзейнічаць з улікам сваіх нацыянальных інтарэсаў, але ў той жа час і з улікам прынятых міжнародных прававых абавязкаў. Тэма па расійскай базе сышла, і яна не актуалізавалася», — сказаў Петрышэнка.

У студзені гэтага года шэф Петрышэнкі Уладзімір Макей не выключаў магчымасці стварэння расійскай базы ў якасці адказу на стварэнне амерыканскай базы ў Польшчы. За паўгода сітуацыя змянілася?

Але ёсць іншае пытанне. Мы не будзем згадваць пра тое, як грамадскасць «адбіла» Сінявокую ад расійскай авіяцыйнай базы ў 2015-м (а між іншым, расійскія самалёты ўжо былі ў Баранавічах). Узгадаем толькі, што вельмі хутка заканчваецца дамова на дзве іншыя вайсковыя базы — станцыю сувязі ВМФ РФ у Вілейцы і РЛС пад Ганцавічамі. Як быць з гэтымі аб'ектамі? Пакуль выразна пра іх лёс ніхто не казаў.

Калі з мілітарнага пункту погляду ў нас, нібыта, усё нармальна, то з эканамічнай бяспекай — швах поўны. Усё з-за «падатковага манеўру» ў Расіі ў нафтагазавай сферы. Ён прывядзе да таго, што нашая краіна будзе набываць энерганосьбіты па сусветных коштах. І з гэтым трэба нешта рабіць.

«Вядома, гэта для нас адчувальна. У першую чаргу таму, што, у адпаведнасці з дамоўленасцямі, пры перапрацоўцы нафты экспартныя пошліны застаюцца ў бюджэце Беларусі. Мы ўважліва сочым за сітуацыяй з завяршэннем падатковага манеўру і, безумоўна, рыхтуемся да яго магчымых эканамічных наступстваў», — паведаміў Петрышэнка. Пасол дадаў, што мы не будзем вынаходзіць ровар, і пастараемся «выцягнуць» сітуацыю за кошт якасных нафтапрадуктаў, мадэрнізуючы НПЗ.

Расійскае спецыялізаванае выданне пра нафту «Нефть-Капитал» ужо вынайшла рэцэпт, як гэтага манеўру пазбавіцца. «Нефть-Капитал» піша, што беларуская эканоміка вычарпала ўсе рэсурсы для росту, расійскі падатковы манеўр істотна пагоршыць сітуацыю, і выйсце для Беларусі толькі адно — капітуляцыя перад Расіяй.

Нехта «эксперт» Васіль Калташоў лічыць, што ў Беларусі ёсць толькі адзіны шлях — «у склад Расіі ў натуральным выглядзе, пакуль застаецца магчымасць аб'яднання беларускага капіталізму з расійскім на роўных умовах».

Напэўна, Калташоў не ведае, што ў Беларусі капіталізму няма, а ёсць «сацыяльна арыентаваная дзяржава для народа». Эксперты павінны ведаць такія агульнадаступныя рэчы, а калі не ведаюць — ніякія яны не эксперты. Гэта па-першае. А па-другое, Расіі б самой захавацца да заканчэння гэтага манеўру.

Bank of America Corp. прагназуе, што на сусветным фондавым рынку можа здарыцца паўтарэнне сусветнага крызісу 1997 — 1998 гадоў, паведамляе Bloomberg. Як сцвярджаюць аналітыкі банка, пра гэта сведчыць падобная дынаміка рынкаў. Рынкі, якія развіваюцца, разбураюцца пад ціскам моцнага долара, у той час як акцыі высокатэхналагічных кампаній прасоўваюцца ўверх. «Устойлівы рост у ЗША, згладжванне крывой прыбытковасці аблігацый, якія скарачаюцца на рынках тых краін, што развіваюцца, — усё гэта падобна на рэха падзеяў 20-гадовай даўніны», — цытуе Bloomberg вядучага інвестыцыйнага аналітыка Bank of America Майкла Хартнета. Пра рызыкі новай рэцэсіі раней папярэджваў і Сусветны банк у дакладзе «Глабальныя эканамічныя перспектывы». У канцы траўня, на выступе ў Парыжы, пра будучы крызіс казаў і Джордж Сорас.

Нагадаем, што гэта ў іншых краінах быў крызіс. А ў Расіі быў дэфолт.

Ну і трэцяе, чаго не кажа Калташоў, — гэта як «у склад Расіі ў натуральным выглядзе» выратуе эканоміку Беларусі. Ён малюе розныя «жахі» — што будзе, калі «інтэграцыі» не адбудзецца. Але не кажа, што здарыцца, калі яна пройдзе. Падаецца, на гэты конт у «эксперта» ўвогуле ніякіх уяўленняў няма — абы «далучыць».

І нават не важна, што «далучаліся» ўжо: Крым сядзіць без электрычнасці і пітной вады, там «денег нет, но вы держитесь», у Абхазіі National Geographic здымае фільмы пра тое, як будзе выглядаць «планета без чалавека», у Прыднястроўі немаведама што… А цяпер яшчэ і Беларусь хочуць ператварыць у шэсць дэпрэсіўных рэгіёнаў, затое расійскіх! Дзякуй, не трэба.

Да таго ж, у незалежнай Беларусі ёсць іншыя, больш карысныя і шчырыя памагатыя. З 9 па 13 ліпеня ў Беларусі будзе працаваць чарговая місія Міжнароднага валютнага фонду.

Нягледзячы на тое, што перамовы пра новы крэдыт Сінявокай і МВФ зайшлі ў тупік, і пакуль не збіраюцца адтуль выходзіць, гэтая фінансавая арганізацыя нашую краіну па-за ўвагай не пакідае. І, паводле меркавання пастаяннага прадстаўніка МВФ у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе Баса Бакера, пагаршэнне знешняй кан'юнктуры можа справакаваць новую дэвальвацыю ў Беларусі. Як пазбегнуць такога сцэнару? Кансультацыя для беларускіх уладаў па гэтым пытанні — і ёсць мэта візіту місіі МВФ.

Карацей, у вялікія святы выявілася, што пагрозаў беларускай незалежнасці вельмі і вельмі шмат. У асноўным яны, канешне, эканамічныя, што, дарэчы, ніяк не ўплывае на іх сур'ёзнасць. Але нельга не заўважыць, што гэтыя пагрозы сыходзяць выключна з аднаго боку — з боку нашага «старэйшага брата» і «стратэгічнага партнёра» на Усходзе. З іншых напрамкаў ніякіх небяспекаў не праглядаецца.

А вось нам самім трэба было б надаць вельмі пільную ўвагу такой тэндэнцыі. І грунтоўна падумаць: ці з тымі людзьмі і ці з тымі дзяржавамі мы сябруем?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Рыгор Кастусёў



**Па дарозе ў аэрапорт 3 ліпеня быў затрыманы старшыня Партыі БНФ, які накіроўваўся ў Варшаву для ўдзелу ў пасяджэнні міжнароднай камісіі польскага сейма.**

«Даведаліся, што ён не сеў на самалёт. Мы абзвонькалі раённыя аддзелы міліцыі і зусім нядаўна атрымалі інфармацыю, вельмі абмежаваную, што Кастусёў знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання Мінскага раёна і што заўтра будзе суд», — паведаміў яго намеснік Аляксей Янукевіч.

«Але відавочна, што калі затрыманне адбылося ў Мінскім раёне, то судзіць могуць за ўдзел у акцыі супраць працы забаўляльнага комплексу з рэстаранам «Паедзем, паядзім» у Курапатах», — выказаў меркаванне Янукевіч.

Па яго словах, Кастусёў некалькі разоў наведваў Курапаты, дзе больш за месяц доўжыцца грамадзянская акцыя супраць працы забаўляльнай установы на месцы масавых расстрэлаў і пахаванняў ахвяраў сталінскіх рэпрэсій.

У выніку Кастусёў быў аштрафаваны на 30 базавых велічынь і ў сейм не трапіў. Але будзе там наступным разам.

Пасяджэнне камісіі польскага сейма, у якім планаваў удзельнічаць Кастусёў, не экстранае. «Такія сустрэчы праходзяць рэгулярна», — патлумачыў Янукевіч.

## Павел Грыб



**У Расіі пачынаюць судзіць украінца, якога скралі ў беларускім Гомелі, што значна абвастрыла адносіны Беларусі і Украіны.**

Крымінальная справа ў дачыненні да ўкраінца Паўла Грыба, які абвінавачваецца ў садзейнічанні тэрарызму, паступіла ў Паўночна-Каўказскі акруговы вайсковы суд. «Папярэдняя слуханні па справе прызначаныя на 9 ліпеня, пасяджэнне пройдзе ў закрытым рэжыме», — удакладніла прэс-сакратар суда Алена Кацькала, перадае «Інтэрфакс».

Грыбу Паўлу інкрымінуюць ч. 1 арт. 205.1 (садзейнічанне ў тэрарыстычнай дзейнасці) КК РФ. Санкцыя артыкула прадугледжвае пазбаўленне волі на тэрмін ад 5 да 10 гадоў.

Паведамляецца таксама, што ў аўторак, 3 ліпеня, Паўночна-Каўказскі акруговы вайсковы суд падоўжыў тэрмін утрымання Грыба пад вартай да 19 снежня.

Згодна з матэрыяламі крымінальнай справы, у перыяд з сакавіка па май 2017 года Павел Грыб перапісваўся па інтэрнэце са школьніцай з Сочы. Расійскае следства сцвярджае, што ўкраінец пераконваў дзяўчыну закласці выробленую загадзя самаробную выбухоўку і прывесці яе ў дзеянне на выпускным вечары 30 чэрвеня 2017 года ў Сочы. Пасля тэракту ён рэкамендаваў школьніцы пакінуць тэрыторыю Расіі.

Як паведамлялася раней, Павел Грыб знік 24 жніўня ў Беларусі. Ён выехаў у Гомель для сустрэчы з расіянкай, з якой пазнаёміўся ў сацыяльных сетках.

Паводле яго слоў, на аўтастанцыі Гомеля яго выкралі невядомыя людзі ў цывільным і перадалі іншым невядомым людзям у нейкім лесе. Больш за суткі яго трымалі ў памяшканні без вокнаў, пасля чаго адвезлі ў Смаленскую вобласць, дзе «законна» аформілі арышт.

Павел Грыб з'яўляецца сынам былога ўкраінскага памежніка Ігара Грыба. 1 ліпеня яму споўнілася 20 гадоў. Ён знаходзіцца ў Краснадарскім СІЗА. Малады чалавек пакутуе ад партальнай гіпертэнзіі, што патрабуе штодзённага прыёму спецыяльных лекаў.

## Аляксандра Сасновіч



**Беларуская тэнісістка сенсацыйна абыграла адну з галоўных фаварытак Уімблдона. У стартавым паядынку турніру Сасновіч сустракалася з яго двухразовай пераможцай чэшкай Петрай Квітавай.**

Квітава — адна з самых востра атакуючых тэнісістак у жаночым туры. На траве падобныя навыкі маюць каласальную перавагу — інакш не была б яна двухразовай уладальніцай Уімблдонскага тытула. Але Сасновіч была гранічна сабраная і актыўна карысталася стомленасцю Квітавай. Паядынак завяршыўся з лікам 6:4, 4:6, 6:0 на карысць беларускі.

Пры гэтым, адказваючы на пытанне, ці не паказала Сасновіч лепшы тэніс у кар'еры, яна адказала: «Я так не думаю. Я магу гуляць яшчэ лепш». У другім крузе Сасновіч сустрэнецца з амерыканкай Тэйлар Таўнсенд.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Чаму так складана асвойваць чужы досвед

**Навука не ведае прыкладаў, калі б кіраўнік пасля 10 гадоў кіраўніцтва краінай прыносіў ёй карысць.**

Была такая папулярная рубрыка ў савецкіх газетах: «Два светы — два лёсы». Пасля краху камунізму многім здавалася, што сваю актуальнасць яна страціла. Свет стаў адзіным. Нездарма ж амерыканскі футуролаг Фрэнсіс Фукуяма напісаў бестселер пра канец гісторыі. Але прыроду не падманеш — хутка толькі коткі нараджаюцца. Савецкасць у чалавеку — яна ж саўковасць — нікуды не знікла. Перажыўшы ліберальную хвалю з яе масавымі акцыямі і дэмакратычнымі выбарамі (прыгадаем 1994-ы), яна аднавілася на ўсіх ўзроўнях — ад бытавога да дзяржаўнага.

Падставай для напісання гэтай «Азбукі паліталогіі» стала навіна з інтэрнэту. Прыводжу яе цалкам: «Прэм'ер-міністра Канады аштрафавалі на сто долараў за тое, што ён не задэклараваў сонечныя акуляры, падораныя яму кіраўніком адной з канадскіх правінцый. Такое рашэнне прыняў назіральны орган па этыцы, — паведамляе Сі-Бі-Сі. — Прэс-сакратар Джасціна Трудо патлумачыла, што ён не задэклараваў акуляры з-за адміністрацыйнай памылкі, а дакладней, няправільна запоўніў форму дэкларацыі. Паводле мясцовага заканадаўства, прэм'ер абавязаны на працягу 30 дзён паведамляць аб атрыманых падарунках, кошт якіх перавышае дзвесце долараў».

Пацешная гісторыя, пагадзіцеся. Прапаную здзейсніць разумовы эксперымент — перанесці сітуацыю на родную глебу, на якой пышна квітнее так званая «беларуская мадэль». Ажыццявіць гэты эксперымент вельмі проста. Для гэтага дастаткова ўсяго толькі прозвішча прэм'ер-міністра Канады замяніць на ўсім нам добра знаёмае. Замянілі?

Атрыманы вынік лепш за ўсё апісаць словам «аксюмаран» (літаральна «вострае глупства», ад старажытнагрэчаскага «ὀξύς» — «востры», «пранізлівы» + «μωρός» — «неразумны», «дурны»). Аксюмаран нярэдка выкарыстоўваецца ў назвах літаратурных твораў: «Гарачы снег», «Жывы нябожчык», «Мёртвыя душы», «Маленькі гігант вялікага сексу».

## Дзве функцыі дэмакратыі

Дэмакратыі ў Беларусі не менш, чым у Еўропе. Праблема не з дэмакратыяй. Праблема з памяццю. Для тых, хто сумняваецца, працытую адзінага палітыка (АП): «Самае галоўнае — гэта лішні раз нагадваць усім нам у краіне і за яе межамі аб дэмакратычнасці нашага дзяржаўнага ладу». Сказана гэта было не выпадкова, а на цырымоніі прывядзення да прысягі суддзі Канстытуцыйнага суда Віктара Рабцава (2 лютага 2017 года).

АП характарызаваў прызначэнца як вядомага навукоўца і практыка. Адсюль яго ўпэўненасць у тым, што гэта (прызначэнне) паслужыць напамінам гораду і свету аб дэмакратычнасці Беларусі. Адначасова, абвясціўшы свой варыянт пераліку правоў чалавека, ён узваліў на сябе нялёгкую ношу галоўнага інспектара па іх выкананні.

Калі адкінуць яхідства, застаючыся пры гэтым у межах азбукавых паліталагічных ісцін, то варта адзначыць, што правы чалавека дзеляцца на сацыяльныя і палітычныя. Ні для каго не з'яўляецца сакрэтам, якім правам аддаецца перавага ў Беларусі. Перыядычныя развагі пра важнасць свабоды слова не павінны хаваць галоўнага кірунку ў пытаннях выканання правоў чалавека, якім з'яўляюцца «нармальнае жыццё і дастойная зарплата, каб дзяцей можна было карміць...» (15 студзеня 2013 года).

Палітычныя правы — гэта перш за ўсё права выбіраць сабе ўладу і мяняць яе ў выпадку неабходнасці. Таму паняцці «палітычныя правы» і «дэмакратыя» з'яўляюцца сінонімамі. Адкрыем кнігу «Дэмакратыя і рынак» польска-амерыканскага палітолага Адама Пшэворскага: «Дэмакратыя — такі палітычны лад, у якім кіруючая партыя можа прайграць выбары».

У дэмакратыі дзве асноўныя функцыі: абмежаванне часу знаходжання кіраўніка на пасадзе (каб знізіць верагоднасць яго перараджэння ў тырана) і стварэнне легітымнага канкурэнтнага асяроддзя, без якога для грамадзян немагчыма фарміраванне прасторы выбару (перамены курсу).

Мне пашанцавала: літаральна днямі на сваім любімым аналітычным сайце republic.ru я прачытаў артыкул кансультанта па арганізацыі бізнесу ў Кітаі Уладзіміра Нявейкіна «Кітай развіваецца вельмі хутка». Прывяду фінальную частку апошняга абзаца: «Калі Дэн Сяапін ладзіў свае рэформы, то адной з галоўных небяспекаў на іх шляху лічылі не дэфіцыт добрых праграм, не, іх можна напісаць колькі заўгодна. Галоўная праблема — супярэчнасць паміж індывідам і грамадствам. Акадэмія грамадскіх навук Кітая тады правяла цікавае даследаванне і не знайшла за ўсю гісторыю чалавецтва ніводнага прыкладу, калі б кіраўнік пасля 10 гадоў кіравання краінай прыносіў ёй карысць. Да 10 гадоў былі розныя варыянты. Пасля — толькі адзін».




## Архаіка на маршы

Беларусь не стаіць убаку ад галоўнай дарогі чалавецтва. Пытанне толькі ў тым, з якой хуткасцю яна па гэтай дарозе рухаецца. На жаль, наша месца размешчана нашмат бліжэй да хваста калоны, чым да яе галавы. Але глытаць пыл, што ўздымаюць дынамічныя краіны-лідары, нам не наканавана. Адставанне такое вялікае, што пыл паспявае асесці.

Адкрыйце любы прэс-рэліз на сайце president.gov.by. Якія праблемы ў нас абмяркоўваюцца на вышэйшым узроўні? Іх пералік традыцыйны: захаванне тэхналагічнай дысцыпліны пры нарыхтоўцы кармоў, неабходнасць замены кіраўнікоў прадпрыемстваў, няздольных «цягнуць». А вось і наш фірмовы заклік «закручваць гайкі». У апошні раз ён быў абвешчаны АП на нарадзе з кіраўніцтвам Жыткавіцкага райвыканкама (28 красавіка 2018 года)!

Архаіка на маршы. І маршу гэтаму хутка пойдзе 25-ы год. Ніякімі размовамі наконт ператварэння Беларусі ў IT-краіну своеасаблівасці нашага развіцця (дакладней, яго адсутнасць) не схаваць.

Кітайцы, якія прызвычаіліся думаць стагоддзямі і тысячагоддзямі, тым не менш абмяжоўвалі знаходжанне адной асобы на вышэйшай дзяржаўнай пасадзе двума тэрмінамі. Мне запярэчаць, што гэты запавет Дэн Сяапіна паспяхова пераадолены цяперашнім кіраўніком Паднябеснай. Сапраўды, гэта так. Аднак уяўленні нямецкага філосафа Фрыдрыха Ніцшэ пра волю да ўлады як пра базавы інстынкт жыцця яшчэ нікому не ўдалося абвергнуць. Без улады не можа існаваць ні адно грамадства, нават на ўзроўні сельскай абшчыны. Але, як кажуць палякі, «Co zanadto, to nie zdrowo». Таму наступствы палітычнай інавацыі па зняцці канстытуцыйнага абмежавання на колькасць тэрмінаў для старшыні КНР, што была прынятая на XIX з'ездзе КПК, не прымусяць сябе доўга чакаць.

За прыкладамі кітайскім таварышам далёка хадзіць не спатрэбіцца. У Беларусі аналагічнае канстытуцыйнае абмежаванне было знятае на рэферэндуме ў 2004 годзе, акурат да дзесяцігадовага юбілею АП. І ўжо праз два гады «беларуская мадэль» дасягнула свайго піку. Але гэта не падстава для радасці, бо дасягненне піка (вышэйшая кропка) азначае пачатак спуску. Што на практыцы і назіраецца.

## Тры шляхі

Калі ўжо гаворка пра Кітай, то быў бы грэх не звярнуцца па каментар да Канфуцыя. Прыдатную цытату ў стагоддзе інтэрнэту знайсці нескладана: «Тры шляхі вядуць да ведаў: шлях разважанняў — гэта шлях самы высакародны, шлях пераймання — гэта шлях самы лёгкі, і шлях вопыту — гэта шлях самы горкі».

Першы шлях галоўнаму архітэктару «беларускай мадэлі» глыбока чужы, пра што ён з гонарам рэгулярна і заяўляе. Тым, хто сумняваецца ў такой катэгарычнай выснове, рэкамендую звярнуцца да дакладаў АП, прысвечаных тэарэтычным абгрунтаванням «беларускай мадэлі» (22 сакавік 2002 года) і дзяржаўнай ідэалогіі (27 сакавіка 2003 года).

Абмяжуюся адной цытатай: «Цалкам неплацежаздольным апынуўся і наш ідэалагічны штаб — Адміністрацыя прэзідэнта. Нарады, даручэнні, аўтарскія калектывы, справаздачы — і нічога на выхадзе. Той жа фармалізм.

У гэтых умовах кіраўніку дзяржавы давялося браць усё на сябе і, **ідучы ад жыцця** (выдзелена. — С.Н.), а не ад тэорыі, закладваць у фундамент беларускай незалежнай дзяржаўнасці ідэі, народжаныя і выпакутаваныя нашым народам».

Так вобразна і ярка апісаны падыход да фарміравання дзяржаўнай ідэалогіі — гэта аналаг шляху вопыту паводле Канфуцыя. Ён апынуўся самым горкім для беларусаў, бо замест ідэалогіі стварылі яшчэ адзін орган па кантролі за добранадзейнасцю грамадзян у асобе ідэалагічнай «вертыкалі». Натуральна, за грошы грамадзян. Вось такі ненавязлівы ідэалагічны сэрвіс.

Асабіста я не супраць ідэалогіі, але толькі той, мэтай якой быў бы прымус дзяржавы да адказнасці. Здавалася б, нічога выдумляць для гэтага не трэба. Ёсць шлях пераймання. Самы лёгкі шлях паводле Канфуцыя. Нездарма ж я пачаў «Азбуку паліталогіі» з гісторыі прэм'ер-міністр Канады, якога аштрафавалі на сто долараў за тое, што ён не задэклараваў сонечныя акуляры.

У нас што, няма адпаведных падстаў? Сказаць, што іх воз і маленькая каляска — гэта нічога не сказаць. Дык чаму ж мы не пераймаем канадскі досвед?

На жаль, па той жа прычыне, па якой мы не пераймае кітайскі і сінгапурскі досвед эканамічнага прарыву краіны з трэцяга свету ў першы. Для паспяховага капіявання кітайскага досведу беларусам неабходна стаць кітайцамі. Для капіявання канадскага вопыту — канадцамі.

# Гомель. Хімічная атака

## Выкіды шпалернай фабрыкі пагражаюць здароўю гамяльчан?

Іван ДАБРАХОТАЎ

**У Гомелі расце напружанасць вакол прадпрыемства, якое выпускае вінілавыя шпалеры. Паводле сцвярджэнняў жыхароў, з нядаўняга часу шкодныя выкіды сталі накрываць іх дамы задушлівымі аблокамі.**

Фота www.gomel.today

### Бясшкодны пах і выгадны бізнес

З вясны гэтага года жыхары Навабеліцкага раёна сталі заўважаць з'едлівы пах і густы дым, што перыядычна накрывае кварталы дамоў у раёне філіяла «Гомельшпалеры» ААТ «ЦБК-Кансалт». Першыя паведамленні пра гэта сталі з'яўляцца ў сацсетках. Па словах гамяльчан, смурод ад гэтых выкідаў такі невыносны, што ў кватэрах даводзіцца зачыняць вокны. У рабочых фабрыкі шкодныя выкіды нават выклікалі ваніты, многія з іх пачалі звяртацца ў медычныя ўстановы з экзэмамі і іншымі праблемамі са здароўем. Відэаблогеры зафіксавалі, як шчыльны шлейф дыму перасякае раку Сож і асядае ўжо ў цэнтральнай частцы абласнога цэнтру. З працай шпалернай фабрыкі сталі звязваць і бура-карычневы налёт, які ўтварыўся на вадаёмах у гэтым раёне.

Прадпрыемства «Гомельшпалеры» працуе даўно, але раней падобных праблем тут не заўважалася. Упершыню да вытворчасці вінілавых шпалер тут прыступілі ў 2002 годзе. Работнікі прадпрыемства, якія па зразумелых прычынах пажадалі застацца невядомымі, кажуць — у студзені 2018 года на прадпрыемстве была праведзена мадэрнізацыя ліній па вытворчасці вінілавых шпалер. Пры гэтым па нейкай прычыне перасталі працаваць ачышчальныя збудаванні. Устрывожаныя жыхары пачалі звяртацца ў розныя інстанцыі.

Першая рэакцыя кіраўніцтва прадпрыемства была наступная — усё ў межах нормы. Намеснік дырэктара прадпрыемства Віктар Кушнер у інтэрв'ю TUT.BY паведаміў: сапраўды, у пачатку года зазнаў змены праект па выпуску вінілавых шпалер. Але ён прайшоў усе неабходныя ўзгадненні. Экалагічны маніторынг фабрыка, па словах намесніка дырэктара, ажыццяўляе таксама рэгулярна. Наяўнасць «непрыемнага» паху прадстаўнік адміністрацыі не адмаўляў, але быў перакананы, што ён з'яўляецца «абсалютна бясшкодным». Каб мінімізаваць пах, трубу паднялі на 10 метраў і рыхтуюць спецыяльныя ўлоўнікі.

Цікава таксама, што ўсю віну за цяперашнія праблемы намеснік дырэктара па ідэалогіі Віктар Кушнер ускладае... на СССР, у часы якога прадпрыемства будавалася ў мяжы горада (адзначу, што цяперашняя шпалерная фабрыка была заснавана як прыватны каніфольны завод у гады НЭПа).

Зразумела, жыхарам, якія працягваюць напоўніцу дыхаць водарам палімернай вытворчасці, ад усяго гэтага не лягчэй. Спробы звярнуцца ў Гомельскі цэнтр гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя поспеху таксама не мелі — інтэнсіўныя выкіды прадпрыемства робіць у вячэрні і начны часы, калі на «гарачай лініі» санстанцыі ўжо нікога няма.

У пачатку чэрвеня актывісты арганізавалі збор подпісаў і выправіліся на прыём да Міхаіла Голубева, кіраўніка Гомельскай гарадской і раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя і дэпутата Гомельскага гарадскога Савета дэпутатаў. Як паведаміў Аляксандр Міхайлавіч, праца шпалернага прадпрыемства была спыненая, і ў хуткім часе, абяцаў ён, праблема будзе вырашана.

Ці могуць жыхары немаленькага раёну Гомеля — Навабеліцы — дыхаць вольна?

### Баявы вініл

Успененыя вінілавыя шпалеры даўно папулярныя на рынку. Шпалеры падобнага тыпу вядомыя ў прастамоўі як тыя, што мыюцца, а яшчэ іх можна нават перафарбоўваць. Але самае галоўнае — асаблівасці тэхналогіі дазваляюць наносіць на іх «высокі» рэльефны малюнак. Відавочна, попыт на рынку стымулюе павелічэнне выпуску такой прадукцыі. Пры гэтым тыповая вытворчасць успененых вінілавых шпалер ажыццяўляецца з выкарыстаннем шэрагу хімічных рэагентаў: на папяровую альбо флізелінавую аснову наносіцца пенафарба з полівінілхларыду (ПВХ). Для яе пластыфікацыі ўжываюць рэчывы дыяксілфталат, дызаактылфталат або дыбутылфталат, для ўспеньвання — азодыкарбонамід.

Працэс вырабу вінілавых шпалер суправаджаецца тэрмічнай апрацоўкай. У выніку вытворчасці ў атмасферу выкідваюцца злучэнні хлору і іншыя шкодныя рэчывы. Хлор — першае баявое атрутнае рэчыва, якое было выкарыстана для масавай паразы войскаў у гады Першай сусветнай вайны.

Пра актуальнасць ахоўных тэхналогій пры вытворчасці вінілавых шпалер кажа і наступны факт. Па дадзеных Расійскага таварыства абароны правоў спажыўцоў, 70 працэнтаў смерцяў на пажарах выклікана атручваннем таксічнымі прадуктамі гарэння, як правіла — шпалерамі і іншымі таннымі аздобнымі матэрыяламі на аснове ПВХ. Пры высокіх тэмпературах вінілавыя шпалеры вылучаюць хлоравадарод, фактычна — канцэнтраваную салянуую кіслату, што імгненна і незваротна труціць лёгкія чалавека. Пры гарэнні шпалер з палімерным пакрыццём утвараюцца таксама цыяністыя злучэнні. Большасць ахвяр нядаўняга пажару ў ГЦ «Зімовая вішня» ў Кемерава загінула ад атручвання прадуктамі гарэння палімерных матэрыялаў.

У большасці грамадскіх устаноў Еўропы выкарыстанне вінілавых шпалер забароненае. У ЕС і ў тым жа Расійскім таварыстве абароны правоў спажыўцоў рэкамендуюць больш бяспечныя шклотканінавыя шпалеры.

Не выпадкова для нейтралізацыі злучэнняў хлору і іншых шкодных рэчываў пры вытворчасці вінілавых шпалер прадугледжаны ачышчальныя збудаванні ў выглядзе печаў дапальвання вентыляцыйных выкідаў. Гамяльчанін Уладзімір распавёў НЧ, што ў 2003 годзе рабіў замеры выкідаў на «Гомельшпалерах». Тады ачышчальныя збудаванні працавалі спраўна. Аднак, як паведамляе незалежны гомельскі рэсурс «Сильные новости», новая лінія вінілавых шпалераў, закупленая ў 2014 годзе, і печы дапальвання былі ад розных вытворцаў. Таму ачышчальная прылада проста не спраўлялася з працай, а адзін раз нават загарэлася. У выніку ад выкарыстання печы дапальвання вырашана было адмовіцца наогул. А новую печ вырашылі не купляць.

Бачна, меркаванні «аптымізацыі» прыбытку адыгрываюць у гэтай гісторыі вырашальную ролю. У многіх каментарах выказваюцца меркаванні, што, каб «Гомельшпалеры» былі прыватным прадпрыемствам, правяраючыя інстанцыі даўно б знайшлі там разнастайныя парушэнні і «зраўнялі яго з зямлёй».

Але, на самай справе, «ЦБК-Кансалт» — адкрытае акцыянернае таварыства, і нават без пераважнага права дзяржавы на набыццё акцыяў.

### Злучэнне хлору і аптымізму

Актывістка кампаніі супраць шкодных выкідаў Анастасія распавяла «Новаму Часу»:

— Работнікі прадпрыемства паведамілі, што печ дапальвання выкідаў ужо была ва ўжыванні — яе паставілі на «Гомельшпалеры» з іншага прадпрыемства. Таму яна часцяком ламалася. А пасля таго, як яе адключылі, наша жыццё наогул ператварылася ў кашмар. У раёне, прылеглым да шпалернай фабрыкі, знаходзяцца дзіцячая паліклініка, тры школы, дзіцячыя садкі. У школах зараз праводзяцца летнія лагеры, настаўнікі водзяць дзяцей на прагулкі.

Актывістка расказала, што адміністрацыя фабрыкі занялася пошукам свайго работніка, які зняў відэа з густымі клубамі выкідаў. Яго ўдалося выявіць па ракурсе здымкаў, і цяпер чалавеку, па словах Анастасіі, пагражае звальненне. Дакладней — непадаўжэнне кантракту ў рамках палітыкі «абнаўлення кадраў». Актывісты працягваюць збор подпісаў у Гомельскі аблвыканкам і пракуратуру. Падчас гэтага збору высвятляюцца новыя цікавыя падрабязнасці. Многія жыхары індывідуальна звярталіся ў адміністрацыю Навабеліцкага раёна, але амаль кожнага з іх там запэўнівалі — ён першы, хто звярнуўся з такой скаргай. Маўляў, ніхто больш ніякага задушлівага смуроду не чуе, дый густога дыму — не бачыць. Пры гэтым на вуліцы Берагавая, у прыватным сектары, нядаўна назіралася масавая гібель сабак.

Жыхары таксама занепакоеныя пытаннем, ці можна ім зараз есці гародніну і садавіну са сваіх прыватных участкаў? Даследаваннем сельгаспрадукцыі на прадмет бяспекі займаецца санстанцыя, але гэтая паслуга — платная. У бліжэйшы час людзі маюць намер паўторна сустрэцца з дэпутатам Гомельскага гарадскога Савета Аляксандрам Голубевым.

А вось дырэктар філіяла «Гомельшпалеры» Дзяніс Марчанка ў сваім нядаўнім інтэрв'ю газеце «Гомельская праўда» паведаміў, што створана спецыяльная камісія, і ўсе праведзеныя праверкі зноў паказалі — з выкідамі на прадпрыемстве ўсё добра. Дырэктар толькі наракае на страты, панесеныя ў выніку прыпынення вытворчасці. І прызнае выключна наяўнасць непрыемнага паху, які зноў абяцаюць ліквідаваць. Пры гэтым артыкул у афіцыёзе так і дыхае аптымізмам: «Усё дзеля здароўя людзей».

*P.S. Матэрыял быў ужо звярстаны, калі жыхары паведамілі: на вялікіх выходных, у нядзелю, 1 ліпеня, шпалерная фабрыка зноў пачала працаваць у ранейшым рэжыме. Над прылеглымі да яе жылымі кварталамі зноў з'явіўся задушлівы дым. Пасля звароту актывістаў да кіраўніцтва Гомельскай гарадской і раённай прыродаахоўнай інспекцыі выкіды з трубы спыніліся.*



Фота www.kuzbass.aif.ru

**У большасці грамадскіх устаноў Еўропы выкарыстанне вінілавых шпалер забароненае. У ЕС і Расійскім таварыстве абароны правоў спажыўцоў рэкамендуюць шклотканінавыя шпалеры**

# Віктар Кучынскі:

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Гэты чалавек калісьці абяцаў абараняць Лукашэнку з гранатамётам у руках. Віктар Кучынскі 2 ліпеня адзначыў 60-гадовы юбілей. Нагода, каб прыгадаць цікавыя факты з яго біяграфіі.**

## Камянец. 9 чэрвеня 1994 года

Старшыня гарадскога савета Камянца Уладзімір Слінко моцна нерваваўся. Ускокваў з крэсла і хутка хадзіў па кабінеце. Бясконца піў ваду з графіна. Раз-пораз яго погляд падаў на настольны каляндар, дзе на лісце «Чацвер. 9 чэрвеня 1994 года» ад рукі было запісана: «Раённы Дом культуры, 10 гадзін».

Раптам зазваніў тэлефон, і Слінко ўсёй скурай адчуў: здарылася дрэннае. Трымаючы слухаўку ў руцэ, Слінко адмаўляўся верыць.

— Ты што, звар'яцеў?! Каб святло было праз пяць хвілін! З працы вылеціш на старасці гадоў, ідыёт! — толькі тут Слінко зразумеў, што крычыць.

Слінко паглядзеў на гадзіннік: без чвэрці дзесяць. Трэба ісці самому разбірацца. Зноў задрыжэў тэлефон. Потым другі. Слінко зразумеў, што гэта па ягоную душу. Махнуў рукой і выйшаў.

Ад гарсавета да раённага Дома культуры — пяць хвілін ходу. Слінко крэкнуў з дасады, калі ўбачыў вялікі натоўп людзей. Чалавек трыста стаялі каля ўваходу. Халера цябе прынесла сюды, падумаў раззлаваны Слінко. Няўжо не мог у суседні раён?

У думках Слінко пракляў старшыню выканкама райсавета Радкова: даручыў арганізаваць сустрэчу, а сам збег у Саўмін.

Падышоўшы да будынка, Слінко заўважыў цёмнавалосага чалавека гадоў трыццаці пяці, з вусамі і ў цёмным гарнітуры, белай кашулі ды з гальштукам. Быў ён невысокага росту, аднак моцнага целаскладу. Выступаў энергічна, але чамусьці заплюшчваў вочы. Кожнае слова падмацоўваў узмахам рукі, сціснутай у цяжкі кулак.

— Не верце, людзі добрыя! Ніколі Лукашэнка не быў старшынёй калгаса, ён — дырэктар саўгаса! Я вельмі даражу сяброўствам з ім, упэўнены, што гэтага жадалі б мільёны людзей! Камянец і Кобрын падтрымаюць кандыдата ад народа! А яны да чаго дайшлі? Святло адключаюць!

— Дык ён і адключыў! — некалькі чалавек з натоўпу выштурхнулі Слінко да выступоўцы. — Гэта старшыня гарсавета.

— Старшыня? — чалавек з вусікамі пацягнуў Слінко да прыступак, дзе стаялі кандыдат у прэзідэнты Лукашэнка, дэпутат Вярхоўнага Савета ад Камянецкага раёна Валерый Зяленін і два дужых хлопца — ахоўнікі.

— Вось, старшыня гарсавета, — сціпла адрэкамендаваў Слінко чалавек з вусікамі.

— Ты чаму святло адключыў? — спытаў Лукашэнка, сцапіўшы напераддзе рукі ў замок.

— Ніхто не адключаў, Аляксандр Рыгоравіч, аварыя, — затросся ад страху Слінко.

— Аварыя, кажаш, — лісліва спытаў Лукашэнка. І тут ярасць прарвалася вонкі. — Святло давай!

Лукашэнка і чалавек з вусікамі літаральна прыціснулі Слінко да сцяны. Яму здалося, што зямля сыходзіць з-пад ног…

Вышэйапісанае — зусім не аўтарская выдумка, а рэальная падзея, якая адбылася 9 чэрвеня 1994 года падчас наведвання Лукашэнкам Камянца Брэсцкай вобласці ў першыя прэзідэнцкія выбары ў Беларусі. Святло далі толькі ў 10:40. Як высветліла раённая пракуратура, насамрэч не было аніякай палітычнай правакацыі. Адключэнне было выклікана разбурэннем галоўнага апорнага ізалятара на станцыі, у выніку без электрычнасці застаўся ўвесь горад. Начальнік раённых сетак сышоў на пенсію, а некаторыя супрацоўнікі атрымалі вымовы і пазбавіліся прэмій за чэрвень ад 25 да 100%. Дасталося Слінко і іншым адказным работнікам мясцовай адміністрацыі.

Прозвішча чалавека з вусікамі, які цягнуў Слінко, было Кучынскі — дэпутат Вярхоўнага Савета, які калісьці абяцаў абараняць Лукашэнку з гранатамётам у руках.


Віктар Кучынскі. Крыніца: «Знамя юности», люты 1990 года

## «Канкрэтны» чалавек

Асаблівасцю Узброеных Сіл СССР была наяўнасць у іх шматтысячнай кагорты намеснікаў камандзіраў вайсковых частак па палітычна-ваеннай працы — інакш кажучы, замполітаў. Галоўная задача гэтых дзеячаў палягала ў выхаванні асабістага складу ў духу камуністычнай ідэалогіі і ў пастаянным удзёўбаванні ў галовы воінаў думкі пра тое, што «от тайги до британских морей Красная Армия всех сильней». Адным з такіх незлічоных замполітаў вайсковай часткі №06986 Кобрына Брэсцкай вобласці Беларускай ССР быў 31-гадовы лейтэнант Віктар Францавіч Кучынскі. Ураджэнец Гомельшчыны, ён скончыў Мінскі электратэхнікум сувязі і Курганскае сярэдняе ваенна-палітычнае вучылішча, але не згубіўся на прасторах неабсяжнай Расіі, а асеў на захадзе роднай рэспублікі.


Віктар Кучынскі ў ваенным і цывільным на перадвыбарных сходах, 1990. Крыніца: «Камуністычная праца», люты 1990 года



У Кучынскага ўсё было стандартна: служба, сям'я, сын і дачка. Але тое, што Віктар Францавіч пайшоў вучыцца (завочна) на гістфак БДУ, яўна сведчыла пра амбіцыі маладога чалавека. І калі настаналі выбары ў Вярхоўны Савет БССР 12 склікання, то Кучынскі не вагаўся — і паспяхова зарэгістраваў сваю кандыдатуру. Тым больш, што ён быў вылучаны Кобрынскай гарадской камсамольскай арганізацыяй.

Галоўная маладзёжная газета рэспублікі «Знамя юности» 4 лютага 1990 года апублікавала інтэрв'ю з кандыдатам у народныя дэпутаты па Кобрынскай гарадской выбарчай акрузе №125 пад назвай «Обратной дороги нет» (неўзабаве праграма кандыдата Віктара Кучынскага «Неабходны механізм канкрэтных дзеянняў» з'явілася ў выданні Кобрынскага гаркама КПБ «Камуністычная праца»). Кучынскі, як і іншыя прэтэндэнты, выступаў за барацьбу з прывілеямі дзяржаўных і партыйных чыноўнікаў, за аптымізацыю выдаткаў на адміністрацыйны апарат. У праграме лейтэнанта прывабліваў заклік спыніць дапамогу з боку СССР краінам «трэцяга свету» і паставіць пад кантроль усе знешнеэканамічныя дамовы Савецкага Саюза.

У перадвыбарчай праграме Кучынскага быў і яўны элемент папулізму. Напрыклад, кандыдат прапаноўваў усталяваць для жанчын, якія выхоўваюць непаўналетніх дзяцей, 20-гадзінны працоўны тыдзень. І ўжо зусім фантастычна гучала прапанова Кучынскага пра тое, каб на працягу трох гадоў прамысловыя прадпрыемствы са шкоднай вытворчасцю перапрафілявалі сваю дзейнасць.

Фігура Кучынскага адразу сталася аб'ектам увагі выбаршчыкаў. На старонках «Камуністычнай працы» з'яўляліся артыкулы «за» і «супраць» кандыдата. Некаторыя выбаршчыкі, напрыклад, адзначалі звышкатэгарычнасць Кучынскага, яго нізкую кампетэнцыю ў эканамічных пытаннях, у прыватнасці, у дзяржразліку, імкненне ліквідаваць «дзедаўшчыну» ў войску сілавымі метадамі.

Канкурэнты ў Кучынскага былі вельмі не слабыя і займалі ўплывовыя пасады: старшыня народнага суда Кобрынскага раёна, кіраўнік будтрэста №33 Кобрына, загадчык аддзела народнай адукацыі Кобрынскага гарвыканкама, дырэктар Кобрынскай райаграпрамтэхнікі. Аднак Віктар Кучынскі перамог ужо ў першым туры 4 сакавіка 1990 года: з 29 424 выбаршчыкаў, што ўзялі ўдзел у галасаванні, маладога афіцэра падтрымалі 20 511 чалавек.

## Народны дэпутат

У Вярхоўным Савеце Беларусі 12 склікання Кучынскі праявіў

# Зампаліт з гранатамётам

сапраўдную актыўнасць. 27 ліпеня 1990 года пастановай парламента №209-XII ён быў зацверджаны ў якасці сакратара пастаяннай камісіі па справах моладзі. Намеснікам старшыні камісіі быў Анатоль Лябедзька. У ліпені таго ж года Кучынскі і Лябедзька накіравалі запыт у сталічную пракуратуру з патрабаваннем разабрацца з махінацыямі пры падзеле маёмасці пры перадачы адміністрацыйных будынкаў паліклінічнага і стацыянарнага аддзялення па вуліцах Энгельса і Ульянаўскай.

Выступы дэпутата ў парламенце заўсёды мелі рэзананс. Яны ўдала спалучалі сарказм і агрэсіўную наступальнасць. У гэтым Кучынскі мог суперніцаць са сваім калегам Лукашэнкам. Вось што, напрыклад, казаў Кучынскі ў Вярхоўным Савеце 27 чэрвеня 1990 года пры абмеркаванні пытанняў Чарнобыльскай катастрофы: «В ряде мест нехорошая морально-психологическая обстановка. Некоторые ударились в панику. Побывав в Брагинской зоне, я делаю вывод, что наших людей превратили в подопытных кроликов, на которых проводят эксперименты, начиная от местных врачей и кончая комиссией МАГАТЭ».

Альбо выступ 4 чэрвеня 1993 года: «Будь моя воля, я бы на сегодняшний день запретил бы всякую политическую деятельность, я имею ввиду партийную деятельность, ввёл бы государственное конституционное правление».

У Вярхоўным Савеце ў Кучынскага скляліся добрыя адносіны з Лукашэнкам. Віктар Францавіч без ваганняў увайшоў у часовую камісію Вярхоўнага Савета (старшынёй 4 чэрвеня 1993 года быў абраны Аляксандр Лукашэнка) па вывучэнні дзейнасці камерцыйных структураў, якія працавалі пры рэспубліканскіх органах улады і кіравання.

Калі 14 снежня 1993 года Лукашэнка агучыў выніковы даклад камісіі, Кучынскі заявіў: «Шушкевичу надо было спросить разрешения у Верховного Совета, а потом ехать хоть в Африку» (Станіслаў Шушкевіч 14 снежня 1993 года тэрмінова вылецеў у Ташкент. — аўт.).

## Выбары–1994

Віктар Кучынскі стаў адной з ключавых фігур у камандзе Лукашэнкі падчас першай прэзідэнцкай кампаніі. Ён, напрыклад, вёў перамовы з партыяй Славянскі Сабор «Белая Русь» па пытанні падтрымкі Лукашэнкі. Падчас кампаніі Кучынскі падпісаў шэраг заяў у падтрымку Лукашэнкі: аб ліквідацыі часовай камісіі па вывучэнні дзейнасці камерцыйных структураў, якія працуюць пры рэспубліканскіх органах улады (красавік 1994 года), аб інцыдэнце ля Дому Урада ў чэрвені 1994 года, калі Лукашэнку ахова «испачкала пиджак, разорвала брюки, нанесла телесные повреждения в области кистей рук». Кучынскі — непасрэдны ўдзельнік так званай «лiёзненскай справы» — нібыта стрэлу па аўтамабілі, у якім знаходзіўся Лукашэнка, у чэрвені 1994 года.

Як трапна заўважыў Аляксандр Фядута («Лукашенко. Политическая биография»), Кучынскі падчас першых прэзідэнцкіх выбараў амаль заўсёды выступаў перад Лукашэнкам, «разогревал публику».

## Пісталет і гранатамёт

Пасля перамогі Лукашэнкі Віктар Францавіч стаў яго памочнікам па асаблівых даручэннях. І — фігурантам «карупцыйнага» даклада дэпутата ад апазіцыі БНФ Сяргея Антончыка 20 снежня 1994 года. Антончык сцвярджаў, што Кучынскі аднойчы бегаў па рынку (дзе і калі — не ўдакладнялася. — аўт.) «с пистолетом в руках и выяснял отношения с алкашами и хулиганами». Акрамя таго, па словах Антончыка, Кучынскі аказваў ціск на следчых у справе аднаго з кіраўнікоў «Прыёрбанка» Шышова, які быў арыштаваны ўвосень 1994 года (сёння Сяргей Іванавіч шчасна кіруе банкам. — аўт.).

Кучынскі не адмаўляў факт інцыдэнту на рынку і заявіў, што канфлікт быў справакаваны асобай каўказскай нацыянальнасці. «Скоро белорусы превратятся в людей второго сорта!» — эмацыйна зазначыў памочнік Лукашэнкі. Менавіта тады, 20 снежня 1994 года, прагучала знакамітая фраза Кучынскага пра гранатамёт. Яна і па сёння трактуецца па-рознаму. У арыгінале, паводле стэнаграмы пасяджэння сесіі Вярхоўнага Савета 12 склікання, яна гучыць так: «Я готов и буду защищать честь и достоинство граждан Республики Беларусь, в том числе и президента, я буду это делать, если в этом будет необходимость, с гранатомётом».



Менавіта словы пра гранатамёт. Крыніца: «Свабода», снежань 1994 года



В городскую окружную избирательную комиссию №125 по выборам народных депутатов Белорусской ССР от Кучинского Виктора Францевича, заместителя командира войсковой части 06986 по политической части

Заявление

Благодарю Кобринскую городскую комсомольскую организацию, выдвинувшую меня кандидатом в народные депутаты Белорусской ССР, за оказанное высокое доверие.

Даю согласие баллотироваться кандидатом в народные депутаты Белорусской ССР по Кобринскому городскому избирательному округу №125.

4.01.1990 года.

В. Куч[подпіс] =Кучинский=

Заява Віктара Кучынскага

Дарэчы, камісія Вярхоўнага Савета па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю высветліла, што ў справе Шышова следчыя Генпракуратуры не паддаліся на ціск Кучынскага.

## Дэпутат і бел-чырвона-белы сцяг

Віктар Францавіч балатаваўся ў Вярхоўны Савет Беларусі 13 склікання і зноў атрымаў перамогу ў першым туры 14 мая 1995 года па Кобрынскай гарадской выбарчай акрузе №23. Сваё перадвыбарчае крэда Кучынскі («майор запаса, юрист и политолог») прадставіў так: «Я — за экономический и духовный союз с Россией и другими странами СНГ. Я не хочу разрухи, войны, крови, национализма, вранья, бездарного управления страной, непредсказуемого будущего для своего народа».

Кучынскі, канешне, падтрымаў лукашэнкаўскі рэферэндум 14 мая 1995 года, на якім адно з пытанняў тычылася змены сімволікі. Аднак ён публічна асудзіў Івана Ціцянкова, кіраўніка справамі Адміністрацыі прэзідэнта, які парваў бел-чырвона-белы сцяг. У сваёй акрузе №23 дэпутат прапанаваў здаць бел-чырвона-белы сцяг у музей.

У Вярхоўным Савеце 13 склікання Кучынскі быў не надта актыўны: уплывала праца на пасадзе памочніка прэзідэнта. Аднак архіўныя стэнаграмы захавалі некаторыя моманты. Напрыклад, 18 студзеня 1996 года пры абмеркаванні кандыдатуры на пасаду старшыні камісіі Вярхоўнага Савета па заканадаўстве Кучынскі прапанаваў рухацца далей у справе дэкрыміналізацыі заканадаўства: «У нас в республике если убил человека — 5 лет, украл куртку — 10 лет, а ребенка судят за “Сникерс”».

**Кучынскі, канешне, падтрымаў лукашэнкаўскі рэферэндум 14 мая 1995 года, на якім адно з пытанняў тычылася змены сімволікі. Аднак ён публічна асудзіў Івана Ціцянкова, які парваў бел-чырвона-белы сцяг. У сваёй акрузе дэпутат прапанаваў здаць нацыянальны сцяг у музей**

## Начальнік і дырэктар... Чукоткі

Калі Лукашэнка ініцыяваў рэферэндум па зменах у Канстытуцыю і ліквідацыі Вярхоўнага Савета, то пытання для Кучынскага не існавала. Ён цалкам падтрымаў Аляксандра Рыгоравіча і напісаў заяву аб жаданні стаць дэпутатам новага органа — Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Больш за тое: 22 студзеня 1997 года ён аднагалосна быў зацверджаны начальнікам Сакратарыята Нацыянальнага схода Рэспублікі Беларусь. У сваёй прамове Кучынскі заявіў, што праца Сакратарыята «должна проходить не по сценарию известного фильма “Свадьба в Малиновке”, а в строгом соответствии с законом».

Аднак у Лукашэнкі былі іншыя планы. Літаральна праз месяц Сакратарыят Нацыянальнага сходу быў ліквідаваны. Аднак Лукашэнка не пакінуў сябра: 9 чэрвеня 1997 года падпісаў указ аб прызначэнні Кучынскага дырэктарам Дэпартамента па гуманітарнай дапамозе. На гэтай пасадзе Віктар Францавіч працаваў аж да 5 кастрычніка 2001 года.

## Рэзкія словы

З таго часу лёс Кучынскага быў звязаны з Палатай прадстаўнікоў (абіраўся па Кобрынскай акрузе №11). Не кранаючы асабіста Лукашэнку, Кучынскі, тым не менш, дазваляў сабе крытыку дзяржаўнага курса. У лістападзе 2002 года Кучынскі выступіў супраць «недоразвитого социализма». Аднойчы Лукашэнка публічна заўважыў: ці мой гэта чалавек Кучынскі, які кажа такія рэчы.

Характэрным момантам у светапоглядзе Кучынскага была непрыязнасць да асоб усходняй і каўказскай нацыянальнасці. Напрыклад, у лістападзе 2004 года Кучынскі ставіў пытанне пра тых людзей, якія нібыта па-за законам знаходзяцца ў Беларусі і «потеснили наших людей на рынках». Віктар заклікаў здзейсніць «зачистку от Бреста до восточных рубежей». Не ўсе калегі віталі Кучынскага. Вольга Абрамава прыстрашыла яго судом.

Але Віктар Францавіч не здаваўся. У красавіку 2005 года ён прапанаваў саджаць гомасексуалістаў.

## Аляксандр Мех і ганьба

Кучынскі зразумеў, што Лукашэнка трымае яго на кароткім ланцужку і таму імкнуўся застацца дэпутатам. 20 мая 2008 года дэпутат сустрэўся з Лукашэнкам і праінфармаваў апошняга пра стан Кобрына і раёна. Менавіта тады, як сцвярджалі недзяржаўныя СМІ, Лукашэнка згадзіўся на правядзенне Дажынак у Кобрыне.

Аднак узнікла недарэчнасць. На выбарах–2008 у Палату прадстаўнікоў выйграў удзельніцаць незалежны мясцовы інжынер Аляксандр Мех. Кучынскі падставіўся: яго памочнік Філіновіч заявіў, што калі Мех не здыме сваю кандыдатуру, то яго жонку звольняць з працы. Аляксандр Мех запісаў размову з кобрынскім кіраўніцтвам. Магчыма, гэта стала прычынай таго, што замест Кучынскага быў абраны іншы кандыдат.

У верасні 2009 года «Дажынкі» прайшлі ў Кобрыне. Аднак гэта не было свята Віктара Кучынскага.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Свята домбры

У Казахстане 1 ліпеня ўпершыню адзначылі Дзень домбры (казахскі нацыянальны музычны інструмент). Свята заснаваў 13 чэрвеня асабіста Назарбаеў, які ўгледзеў у гэтым інструменце глыбокі філасофскі і нават палітычны падтэкст. «Свята патрэбнае для далейшай кансалідацыі грамадства вакол ідэі захавання і адраджэння нацыянальнай культуры і ідэнтычнасці», — гаворыцца ва ўказе Назарбаева. Больш за тое, домбра, паводле праваднага казахаў, нейкім чынам уплывае на спецыфіку носа казаха. «Толькі казах, які нарадзіўся з пахам палыну ў носе, можа зразумець гучанне нацыянальнага музычнага інструмента домбры», — лічыць Назарбаеў. Дарэчы, кіраўнік Казахстана — вялікі прыхільнік домбры. Ён не толькі грае на ёй, але і спявае пад уласны акампанемент традыцыйныя казахскія песні — кюі. Першы вопыт святкавання Дня домбры не абышоўся без кур'ёзаў на глебе жадання чыноўнікаў адзначыцца перад Елбасы. Напрыклад, у адной з вёсак Усходняга Казахстана паставілі сяміметровы помнік домбры. Але далей за ўсіх пайшлі ў сталіцы і шэрагу абласных цэнтраў. У мясцовых радзільных дамах нованароджаным падарылі домбру. Што тычыцца простых людзей, то яны ўспрынялі новае свята з іроніяй і чакаюць з'яўлення Дня кумысу.

**Паводле казахскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Як патрапіць на вялікі экран

У Германіі зрабіць гэта вельмі проста. Для гэтага трэба патрапіць у шэрагі актывістаў правапапулісцкіх партый. Апошнім часам мясцовая кінаіндустрыя вырашыла далучыцца да кампаніі супраць росту папулярнасці правых. На экраны тэлевізіі і кіно канвеерам выходзяць мастацкія фільмы або серыялы, якія распавядаюць пра пагрозу з боку партый накшталт «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD). Іх назвы кажуць самі за сябе: «Цёмны час», «Я яшчэ ніколі не забіваў», «Дэмакратыя памірае ў цемры». Прычым, каб асабліва не напружвацца, рэжысёры капіююць рэальных актывістаў AfD. Так, у фільме «Цёмны час» лідар выдуманай партыі «Новыя патрыёты» відавочна спісаны з фігуры Фраўке Петры — адной з кіраўнічак AfD. Яшчэ далей пайшлі стваральнікі фільма «Я ніколі не забіваў», дзе верхавод правых папулістаў — копія «альтэрнатыўшчыка» Аляксандра Гаўланда. Нягледзячы на такі трэнд, Гаўланд і Петры не спяшаюцца бегчы ў суд. Яны спадзяюцца, што іх аватары спадабаюцца немцам, паколькі на экране ім супрацьстаяць панкі, гомасексуалісты, мусульмане і іншыя непадобныя да звычайных бюргераў асобы.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. Хто замовіў барацьбу за мараль?

Расійскія СМІ раптоўна зацікавіліся пытаннем маралі: сінхронна выкрываюць дзяўчат, якія вырашылі правесці ноч з замежнымі футбольнымі заўзятарамі. Між тым, шэраг апазіцыйных сайтаў лічаць, што крыжовы паход за маральнае аблічча расійскай жанчыны арганізаваў Крэмль. «Прапагандысцкая машына Крамля ўжо які месяц старанна ўкідае ў грамадства фальшывыя скандалы. Мэта іх — адцягнуць насельніцтва ад чарговага рабавання (павышэнне пенсійнага ўзросту, павелічэнне ПДВ, рост пошліны за афармленне дакументаў і іншае)», — піша адзін з пiцерскіх журналістаў. Але самае цікавае яшчэ наперадзе, калі Дзярждума пачне разглядаць скандальны законапраект пра павышэнне пенсійнага ўзросту. Паводле дзіўнага збегу абставінаў, ён прыпадае на 16 ліпеня — стагоддзе з дня забойства імператара Мікалая ІІ. У сувязі з гэтым чакаецца папросту неверагодны ажыятаж вакол круглай даты. «Адны будуць ірваць кашулі, бароды і пэйсы, патрабуючы каяцца, іншыя іх пасылаць... А ў Дзярждуме тым часам прагаласуюць», — прагназуюць у незалежных СМІ.

**Паводле расійскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Валенса рыхтуе пераварот

Нядаўна ў Facebook і Twitter з'явілася паведамленне ад былога прэзідэнта Польшчы Леха Валенса. Аўтар заяўляе, што мае намер «узначаліць фізічнае адхіленне ад улады галоўнага вінаватага ва ўсіх няшчасцях». Няма сумневаў, што пад «вінаватым ва ўсіх няшчасцях» Валенса мае на ўвазе Яраслава Качыньскага, кіраўніка партыі «Права і Справядлівасць» (PiS). Менавіта PiS ініцыяваў супярэчлівую рэформу вышэйшага суда, якая раскалола польскае грамадства. Многія палякі лічаць, што рэформа знішчае суд як незалежную галіну ўлады. Шмат хто плануе выйсці на пратэсты, якія пачнуцца ў Варшаве з 4 ліпеня — дня ўступлення закона аб рэформе вышэйшага суда ў сілу. Так ці інакш, зараз усе дыскутуюць, ці можна трактаваць нататкі Валенсы як заклік да дзяржаўнага перавароту. На першы погляд, гэта сапраўды намер арганізаваць рэвалюцыю. З іншага — словы Валенсы можна разумець інакш, паколькі ён збіраецца зладзіць пераварот толькі ў тым выпадку, калі на вуліцы выйдзе сто тысяч пратэстоўцаў.

**Паводле польскай прэсы**



Фота www.twitter.com

# Смяротныя танцы

Алег НОВІКАЎ

**Пяцьсот гадоў таму ў Еўропе адбыўся амаль містычны выпадак, які дасюль не дае спакою навукоўцам. Сотні людзей раптам ахапіла жаданне танчыць без перапынку.**

У медыцыне існуе азначэнне — «танцавальная манія». Аднак яно, хутчэй, тычыцца хваробы пад назвай «харэя» (ад грэчаскага «χορεία» — форма танца). Яна ж таксама вядомая як «скокі святога Віта». Хворым на харэю ўласцівы сіндром, які характарызуецца бязладнымі, адрывістымі і нерэгулярнымі рухамі. Гэта гратэскная міміка вонкава часта нагадвае танец. Лічыцца, што «скокі святога Віта» ўласцівыя для велізарнай колькасці розных неўралагічных захворванняў.

Аднак тое, што адбылося на пачатку ліпеня ў 1518 годзе, яўна не адпавядае сімптомам харэі. Усё праз масавы характар танцавальнай маніі, якая хутка апанавала каля 400 чалавек. Праўда, жаданне рытмічна рухацца і скакаць адразу ахапіла не ўсіх. Першай ахвярай аказалася нейкая спадарыня Трафеа, якая выбегла на вуліцу Страсбурга і пачала танцаваць. На працягу тыдня да яе далучыліся яшчэ 34 чалавекі. Праз месяц натоўп танцораў вырас да некалькіх сотняў, сярод якіх большасць складалі жанчыны.

Прычым танец так захапіў людзей, што яны адмаўляліся ад ежы, сну і ўвогуле любога адпачынку. Не дзіўна, што час ад часу некаторыя падалі ад фізічнага знясілення, інфарктаў і гэтак далей. Калі верыць сучаснікам, гэты былі жудасныя сцэны. Вельмі часта стомленыя танцоры падалі, ламалі рэбры, аднак і далей намагаліся працягнуць скокі. Паводле шматлікіх крыніцаў, штодня ад танцаў у горадзе паміралі каля 15 чалавек.

Муніцыпальныя ўлады былі ў прастрацыі. Натуральна, з улікам часу, першай рэакцыяй на танцы была калектыўная малітва ва ўсіх гарадскіх касцёлах. Паколькі гэта не спыніла танцавальную ліхаманку, у мэрыі сканцэнтраваліся на іншых шляхах вырашэння праблемы. Былі мабілізаваныя ўсе медыцынскія аўтарытэты. Дактары мелі давесці, што танцы ў Страсбургу нельга звязваць з чумой. Слова «чума» ў сярэднявечныя часы выклікала калектыўную паніку і імклівы дэмантаж сацыяльных структураў.

Адначасова ў ратушы адбыўся мазгавы штурм, у выніку якога быў вынайдзены чарговы антыдот супраць танцаманаў. На думку гарадскіх уладаў, праблему можна вырашыць, калі ўсе танцоры стомяцца. Каб стымуляваць тую стомленасць, людзей заклікалі танчыць яшчэ больш. Для аматараў танцаў пабудавалі на гарадскім рынку нешта накшталт танцполаў і сцэны, запрасілі музыкаў, якія павінны былі граць як удзень, так і ўначы. Відавочна, што такі рэцэпт толькі пагоршыў статыстыку смяротнасці.

Калі стала зразумела, што прынятыя захады не прыводзяць да паляпшэння сітуацыі, мясцовыя ўлады цалкам змянілі тактыку. Цяпер яны забаранілі любыя забавы ў горадзе, у тым ліку азартныя гульні, прастытуцыю, музыку і танцы. Супраць заразы пачалі змагацца рэлігійнымі рытуаламі. Праз некалькі тыдняў эпідэмія пайшла на спад. Большасць хворых здолела аднавіць кантроль над сваім целам. Верагодна, гэта выратавала Страсбург ад татальнага хаосу.

З іншага боку, думаецца, што, калі б танцавальная чума паўтарылася ў наш час, рэакцыя ўладаў была б таксама вельмі неадэкватнай. Прычыны хваробы, што выбухнула 500 гадоў таму, ніхто не ведае дасюль. Цяпер навукоўцы, якія намагаюцца зразумець танцавальную ліхаманку, аперыруюць выключна шэрагам тэорый.

Напрыклад, існуе тэорыя, што танцавальная чума не была спантаннай акцыяй. Некаторыя знайшлі ў летапісах запісы: быццам, некаторыя танцоры былі ў незвычайнай вопратцы і мелі драўляныя кії. Магчыма, гэта была нейкая секта, якая выкарыстоўвала для рэкрутынгу танцавальныя практыкі. У тым ліку таму, што ў экстазе танцу людзі ахвотна аддавалі ўсю маёмасць.

Схільныя да марксісцкай школы звяртаюць увагу на цяжкі матэрыяльны фон. Танцы non-stop для шмат каго былі нейкай формай пратэсту, і, магчыма, альтэрнатывы бясконцаму стрэсу ад эксплуатацыі. Паводле гэтай тэорыі, «танцавальная чума» выступае, хутчэй, як сацыяльная з'ява.

Найбольш папулярная — хімічная тэорыя. Паводле яе адэптаў, 500 гадоў таму ў Страсбургу здарылася харчовае атручэнне псіхаактыўным прадуктам спарыннні, якая трапіла ў хлеб. У спарынні знаходзяцца алкалоіды, па хімічнай структуры блізкія да наркатычнага рэчыва ЛСД, якое, дарэчы, першапачаткова было сінтэзаваны менавіта з іх.

Аднак такая тэорыя абсалютна не працуе ў рэгіёнах, дзе няма наркатычных раслінаў. Напрыклад, эпідэмія смеху ў Танзаніі ў 1962-м, калі смех ахапіў каля 150 школьніц. Калі праз два месяцы школу зачынілі, смех перакінуўся на навакольныя вёскі, і нават атакаваў суседнюю Намібію. Акрамя смеху паведамлялася аб спадарожных сімптомах: боль, праблемы з дыханнем, прыступы плачу і гэтак далей. Эпідэмія скончылася праз 18 месяцаў.

Найбольш далёка ў вывучэнні «танцавальнай чумы» прасунуліся гісторыкі. Яны давялі, што выпадак у Страсбургу — не ўнікальны. Падобныя танцы апісаныя ў хроніках Англіі і Нідэрландаў. У Італіі ў XVI–XVII стагоддзях былі папулярныя «тарантэлы» — масавыя танцы да знясілення. Лічылася, што такім шляхам можна пазбегнуць укусу тарантула. Ускосным доказам распаўсюджанасці хваробы з'яўляюцца казкі братоў Грым. У некаторых з іх ёсць сцэны, калі людзі губляюць кантроль над целам, якое аўтаномна танчыць пад нейкую мелодыю. Паўтараліся выпадкі танцавальнай маніі ў Еўропе і пасля 1518 года. Напрыклад, у 1536-м у нейкай базельскай школе патрэба танчыць ахапіла шматлікіх дзяцей.

Апошнія рэцыдывы танцавальнай маніі ў Еўропе фіксуюцца ў сярэдзіне XVII стагоддзя. Пасля «танцавальная чума» загадкава знікла, пакінуўшы пытанні, на якія навукоўцам, відавочна, яшчэ давядзецца адказваць.

# Куды перанесці сталіцу Літвы?

Алег НОВІКАЎ

**У суседняй дзяржаве зноў паднялася хваля спрэчак — ці не варта перанесці сталіцу з Вільні ў Каўнас?**

Ролю трыгера дыскусіі ўзяў на сябе журналіст Андрус Ужкальніс, які апублікаваў правакацыйны тэкст пад характэрнай назвай: «Вільнюс больш не падыходзіць на ролю сталіцы. Давайце перанясем яе ў Каўнас». У артыкуле аўтар у васьмі пунктах паспрабаваў аргументаваць, чаму Літве неабходны перанос сталіцы.

Па-першае, Вільня, якія б гіпермаркеты і хмарачосы ні рабілі цяперашнія архітэктары, усё роўна застаецца старым горадам. Свой унёсак робіць і савецкая архітэктурная спадчына, якая дасталася Вільні як былой сталіцы Літоўскай ССР. Каб пазбавіць Вільню савецкага шарму, трэба знесці наступныя аб'екты — аэрапорт, парламент, будынак ураду, нацыянальную бібліятэку, тэатр оперы і балета, цэнтральныя кінатэатры, шматлікія рэстараны, музей сучаснага мастацтва, нацыянальную мастацкую галерэю, міністэрства замежных спраў, міністэрства аховы здароўя, міністэрства эканомікі і гэтак далей. Натуральна, па шматлікіх прычынах дэмантаж пералічаных помнікаў савецкага мінулага проста немагчымы. Таму ў горадзе, як адзначае Ужкальніс, адчуваецца атмасфера архаікі, якая выклікае ў жыхароў пачуццё стомленасці і адсутнасці аптымізму.

Аднак сітуацыя на самай справе яшчэ горшая. «Тэрмін прыдатнасці (Вільні) скончыўся», — ставіць дыягназ аўтар. Звяртаецца ўвага на хранічнае пытанне вывазу смецця, на тое, што цэнтральныя вуліцы горада не адпавядаюць крытэрыям нармальнай камунікацыі. Лепшы прыклад — нядаўні візіт караля Нідэрландаў. Каб не шакаваць манарха станам сталічных вуліцаў, яго адразу павезлі ў Каўнас. Не кажучы пра тое, што віленскі грамадскі транспарт — «музей металалому». «Сёння ганарыцца Вільняй было б непаразуменнем. Гэта тое ж самае, што выхваляцца, што жывеш у кантэйнеры для смецця», — піша журналіст.

Таксама сталіца яму не падабаецца за адсутнасць нармальнай адміністрацыі, пра што сведчыць няздольнасць мэрыі Вільні спыніць працэс разбурэння гары Гедыміна — сімвала літоўскай незалежнасці. Не здольны вільнюскі муніцыпалітэт за амаль 30 гадоў вырашыць і праблему пабудовы нацыянальнага стадыёна. У Каўнасе ж такіх негатыўных рэчаў няма. Акрамя таго, Каўнас пазбег настолькі моцнай саветызацыі. Тут, маўляў, задае тон прыгожая архітэктура міжваеннага перыяду, у тым ліку стары прэзідэнцкі палац.

Напрыканцы Андрус Ужкальніс зазначае, што ўвогуле не бачыць перспектыў для горада на Віліі. Хіба што на яго частцы можа працаваць парк забаў. Астатнюю частку Вільні прапануецца забудаваць прадпрыемствамі шкоднай хімічнай прамысловасці і засеяць рапсам, а таксама пабудаваць турму ЦРУ каля аэрапорта.



Вельмі агрэсіўны і правакатыўны тэкст Ужкальніса адразу знайшоў чытача. Тым больш, што нефармальнае супрацьстаянне паміж Каўнасам і Вільняй працягваецца, напэўна, з 1940 года. Тады літоўскі ўрад пасля 20 гадоў знаходжання ў Каўнасе пераехаў у Вільню. Для шматлікіх жыхароў Каўнаса цяперашняя сталіца — гэта не літоўскі горад, а нейкі маленькі Вавілон. У сваю чаргу, вільнюсцы трымаюць Каўнас за бензакалонку на трасе на Клайпеду.

Рэакцыя на прапанову журналіста вельмі цікавая. Напрыклад, яе віталі некаторыя віленскія рускамоўныя. Для іх публікацыя Ужкальніса — негалосны акт капітуляцыі літоўскай нацыяналістычнай грамадскасці, якой так і не ўдалося зламаць «славянскую карму» Вільні. Магчыма таму некаторыя літоўскія патрыёты асудзілі тэзісы артыкула. На іх думку, аўтар грае на руку польскім шавіністам, якія заўжды марылі «аджаць» Вільню.

Некаторыя каўнасцы, хаця і пагаджаюцца з думкамі публіцыста, асцярожна ўспрымаюць праект Каўнаса як сталіцы. Маўляў, як бы ўсе праблемы Вільні ні сталі праблемамі Каўнаса. Праўда, проста так статус сталіцы вільнюсцы наўрад ці аддадуць. «На самай справе, Каўнас — гэта самая сапраўдная шэрая і невясёлая вёска, населеная русафобамі. Ніколі і ніякая архітэктура аблезлага Каўнаса не параўнуецца з архітэктурай Вільні», — піша адзін патрыётаў цяперашняй сталіцы.

Адначасова гучаць і свежыя прапановы на гэты конт. Напрыклад, на форумах паўстала фракцыя аматараў Шаўляя. На іх думку, горад павінен прыняць статус сталіцы, паколькі, у адрозненне ад Вільні, знаходзіцца адносна далёка ад Астравецкай АЭС. Плюс — побач з Шаўляем знаходзіцца база NATO. З гэтым варыянтам не пагаджаюцца клайпедцы, якія маюць свой забойны аргумент: «Сталіцы ўсіх нармальных краін Балтыкі знаходзяцца ля мора. Адназначна Клайпеда». Ёсць і больш экстравагантныя прапановы. Так, узгадваюць, што ў краіне назіраецца шалёны адток моладзі за мяжу. Таму аптымальным рашэннем было б перанесці сталіцу Літвы ў Дублін (Ірландыя сёння стала галоўным накірункам для літоўскіх працоўных мігрантаў).

Акрамя ўсяго, не выключана, што скандальная публікацыя — фрагмент рэкламнай кампаніі каўнаскага мэра Вісвалдаса Мацієўшайціса. Апошні лічыцца адным з фаварытаў на пасаду прэзідэнта на хуткіх выбарах. Ужкальніс за кошт параўнання квітнеючага Каўнаса і бруднай Вільні па сутнасці намякае, што краіне патрэбны такі лідар, як Мацієўшайціс. Калі гэта версія сапраўдная, то перанос сталіцы літоўцам наўрад ці пагражае. Цяперашнія дэбаты — гэта тонкі піяр каўнаскага бургамістра.

Нарэшце, магчыма, прычына з'яўлення артыкулу значна больш банальная. Каментатары не выключаюць, што днямі ў віленскім тралейбусе Андруса злавілі злыя кантралёры. Вось той і абрынуўся на Вільню.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Андрэа Налес



У лідаркі нямецкай сацыял-дэмакратычнай партыі (SPD), у мінулым адной з вядучых партый ФРГ, на думку каментатараў, нечакана з'явіліся шанцы аднавіць аўтарытэт эсдэкаў.

Рэйтынг SPD за апошнюю дэкаду імкліва знізіўся, а выратавальны круг кінула Ангела Меркель. У ноч на аўторак яна дасягнула пагаднення з міністрам унутраных спраў Хорстам Зеехоферам, які пагражаў адстаўкай з-за ліберальнай міграцыйнай палітыкі кабінета. У выніку Меркель і Зеехофер дасягнулі кампрамісу, сутнасць якога заключаецца ў стварэнні так званых «транзітных цэнтраў» па прыёме ўцекачоў на мяжы Германіі і Аўстрыі.

У іх будуць размяшчацца бежанцы, ужо зарэгістраваныя ў іншых краінах ЕС. Пасля іх плануецца адпраўляць назад у дзяржавы ЕС, дзе мігранты прайшлі працэдуру першаснай рэгістрацыі. Такім чынам на поўдні ФРГ фактычна ўводзіцца новы рэжым перасячэння мяжы.

Ход Меркель называюць адыходам ад пазіцыі палітычнага цэнтра. Вакуум, што ўзнік у цэнтры, могуць заняць эсдэкі. Гэта дазваляе ім зноў марыць пра вяртанне да ўлады. Некаторыя СМІ нават фантазіююць пра рэнесанс ідэі шырокага левага ўрада. Іншыя ж медыя лічаць, што эскалацыя паміж Меркель і Зеехоферам працягнецца, паколькі кіраўнік МУС фактычна публічна прынізіў Меркель. Не кажучы пра тое, што краіны ЕС, праз якія мігранты накіроўваюцца ў ФРГ, могуць адмовіцца прымаць бежанцаў з Германіі.

### Гурбангулы Бердымухамедаў



Упершыню пасля прыходу кіраўніка Туркменістана да ўлады ў 2012 годзе ў прэсе прагназуюць хуткае звяржэнне Аркадага (Заступнік — афіцыйная мянушка цяперашняга туркменскага гаранта).

Называюцца нават канкрэтныя тэрміны Майдана — пачатак наступнага тыдня. Грунтам для падобных прагнозаў сталі навіны пра імклівае пагаршэнне эканамічнага стану ў краіне. У дзяржаўных крамах сталіцы Туркменістана з кожным днём павялічваюцца чэргі за прадуктамі. Каб іх схаваць, крамы гандлююць з чорнага ходу. У абласцях хлеб прадаюць па пашпарце, а ў чаргу па муку запісваюцца на месяц наперад. Дэфіцыт і значны рост коштаў на прадукты харчавання ў Туркменістане назіраюцца на фоне рэзкага скачка курсу долара на чорным рынку.

Што тычыцца афіцыёзу, то ён упарта імкнецца паказаць адсутнасць якіх-небудзь праблем. У якасці заспакаення на мясцовым тэлебачанні паказваюць новыя рэкорды Аркадага. Толькі за адзін тыдзень ён паставіў два рэкорды: яго конь здолеў прайсці 10 метраў на задніх нагах, што з'яўляецца сусветным рэкордам. Плюс кіраўнік дзяржавы на аснове ўласных чарцяжоў сабраў «высокахуткасны спартовы пазадарожнік» і разам са сваім сынам выпрабаваў яго магчымасці ў тэстах.

### Маўрысіа Макры



Прэзідэнт Аргенціны, прадстаўнік ліберальна-кансерватыўнай партыі «Рэспубліканская прапанова», нечакана пацярпеў праз футбол.

У гэтыя дні аргенцінцы не толькі сумуюць праз правал сваёй зборнай на Кубку свету ў Расіі, але таксама ўзгадваюць юбілей — роўна 40 гадоў таму, 25 чэрвеня 1978 года, аргенцінская зборная стала чэмпіёнам свету пасля перамогі над галандцамі. Ахвярай успамінаў наконт Мундыялю 1978-га, які, дарэчы, і прымала Аргенціна, нечакана апынуўся дзеючы прэзідэнт. Усё праз тое, што 40 гадоў таму пры ўладзе ў краіне знаходзілася вайсковая хунта, якая вырашала праблемы сваёй папулярнасці за кошт гучных футбольных перамогаў.

На думку левай апазіцыі, напрацоўкамі дыктатуры ў свой час скарыстаўся Макры. Сваю палітычную кар'еру ён будаваў на тым, што быў дырэктарам папулярнага сталічнага клубу Club Atlético Boca Juniors.

Такога кшталту папрокі адміністрацыя прэзідэнта адмаўляе, нагадваючы, што левыя таксама займаліся піярам на футболе. Напрыклад, абяцалі пазбавіць камерцыйныя каналы манапольнага права на трансляцыі чэмпіянату. Акрамя таго, менавіта Макры ў 2016-м ініцыяваў стварэнне Мемарыяльнага цэнтру ў будынку Вышэйшай тэхнічнай вайсковай школы (ESMA). Менавіта ў падвалах ESMA, што знаходзілася ў некалькіх кварталах ад стадыёну, дзе праходзілі фінальныя матчы Мундыялю–1978, катавалі дысідэнтаў.

# 25 гадоў за Мікалая ІІ на талерачцы



Алесь КІРКЕВІЧ

**Праз данос ці неабачлівасць пад каток сталінскіх рэпрэсій мог трапіць кожны. Напрыклад, «маленькі чалавек», інтэлігент з Гродна, які наўпрост любіў старыя кнігі...**

Архіў Міхаіла Волчака сёння захоўваецца ў прыватнай калекцыі. Гэта некалькі здымкаў, стос папераў перапіскі з дзяржаўнымі органамі, даведак аб вызваленні і пераглядзе справы, і галоўнае — успаміны. Машынапіс быў набраны самім героем у 1970-я гады. Каб не забыцца самому і не даць забыць іншым.

## «Зброя — толькі нагода...»

«У лістападзе 1951 года, па ініцыятыве мясцовых органаў МДБ, я быў асуджаны Гродзенскім аблсудом на 25 год лагераў за «захоўванне» талерачкі з вывявай апошняга цара ды нейкіх часопісаў на польскай мове з фотарэпрадукцыямі расстралянага Тухачэўскага і пахавання Пілсудскага. Зараз, пасля маёй рэабілітацыі па гэтай справе, магу сказаць, што яго падапплёка была іншай. Па такім нягеглым звінавачванні (...) можна было загнаць у лагеры на 25 гадоў шматлікія сотні тысяч людзей без усялякага «злога ўмыслу» з іх боку...»

Менавіта так пачынаюцца ўспаміны Волчака. Далей аўтар тлумачыць, на яго думку, сапраўдныя спружыны ягонай справы, а менавіта — спробу аднавіць сабе польскую нацыянальнасць замест «навязанай» рускай. Таксама Волчак пісаў артыкулы ў «Гродзенскую праўду», дзе пляжыў «казнакрадаў і хабарнікаў у родным горадзе». Відаць, падобная актыўнасць паляка ў паваенным Гродна ля самай мяжы і прыцягнула ўвагу органаў...

«21 кастрычніка 1951 года прыйшлі да мяне на кватэру тры супрацоўнікі МДБ, з тым, што яны, маўляў, маюць інфармацыю пра захоўванне мною зброі, — працягвае Волчак, — і лепш будзе, калі я здам яе добраахвотна. Аднак яны нават не спрабавалі яе шукаць, затое адразу пачалі рыцца ў маіх кнігах і паперах. Адзін з іх адразу выцягнуў са старой шафкі згаданую вышэй талерачку, быццам сам яе нядаўна туды паклаў. Стала зразумела, што зброя — гэта толькі нагода...»

Талерачка ў доме Волчака была напамінам пра бацьку, які атрымаў яе як узнагароду-падарунак падчас службы ў царскай арміі. Што да «экстрэмісцкіх часопісаў» з выявамі Тухачэўскага і пахавання Пілсудскага — наогул смешна, бо, пагартаўшы любую падборку тагачаснай польскай прэсы, можна было знайсці і цікавейшыя матэрыялы: напрыклад, здымкі з палявання Германа Герынга ў Белавежскай пушчы ў канцы 1930-х. Карацей, шукайце — і знойдзеце, грукайце — і вам адчыняць...

## «Была разгромленая і вывезеная бібліятэка... 1700 тамоў»

Волчак быў перакананы, што на яго данеслі, і нават блізкія — жонка і пляменнік ужо «апрацаваныя» органамі. Мы не ведаем, ці гэта праўда, але далейшыя абставіны справы, у тым ліку папяровая вайна жонкі з Генпракуратурай ды іншымі структурамі, падказвае, што хутчэй — не. Аўтар піша, што да высновы пра «родных-даносчыкаў» ён прыйшоў праз два тыдні ў засценках МДБ... Падказалі? Падазронасць? Паранойя?

І тут мы падыходзім яшчэ да аднаго пункту трагедыі. Волчак — бібліяфіл, які планамерна збіраў старадрукі, а ў міжваенны час удзельнічаў у раскопках на Старым Замку ў Гродне, хоць прафесійна займаўся будаўніцтвам. Сёння б сказалі — краязнавец, калекцыянер, кніжнік. І вось...

«Была разгромленая і вывезеная мая бібліятэка — каля 1700 экз. старых кніг, часопісаў і рукапісаў. Для бачнасці быў складзены пратакол на прыкладна 10% ад гэтай колькасці. Асабліва шкада мне было старых рукапісных і друкаваных матэрыялаў пра Гродна і Гродзеншчыну, якія я збіраў з вялікай цяжкасцю на працягу больш як 20 гадоў. Праз шмат гадоў супрацоўнікі аддзелу рукапісаў АН БССР, не ведаючы, што здарылася, прапаноўвалі мне перадаць ці прадаць ім сабраныя мною матэрыялы аб родным горадзе».

У іншым месцы ўспамінаў Волчак піша, што з яго выбівалі подпіс пад паперай: маўляў, кнігі і рукапісы былі знішчаны з яго згоды і ў яго прысутнасці. Чаму? Навошта? Аўтар бясконца задаецца гэтымі пытаннямі. Але ці не з кватэраў і дамоў рэпрэсаваных папаўняліся калекцыі антыкварыяту і халоднай зброі сілавікоў з вялікімі зоркамі на пагонах у тыя часы?.. Магчыма, і сам арышт стаўся вынікам «замовы» на каштоўную калекцыю.

## Не хочаш «стучаць»? Дадамо яшчэ 15 гадоў...

«Знаходзячыся пасля арышту ў засценках, я ўжо меў за спіной польскую турму і нямецкі лагер; і ўсё ж такі я быў уражаны прыніжаючымі чалавечую годнасць адносінамі да арыштаваных. Хоць я асабіста пазбегнуў «мокрых» катаванняў падчас допытаў, аднак не пазбегнуў «сухіх» катаванняў кругласутачнай бяссонніцай на працягу некалькіх дзён. Зараз ужо не памятаю, з чаго яны пачаліся: альбо я не хацеў падпісваць пратаколаў (...), у якіх мне вызначылі рускую нацыянальнасць, (...) альбо не хацеў падпісваць «згоды» на варварскае знішчэнне сваёй бібліятэкі».



Міхаіл Волчак з сям'ёй, 1930-я гады, Гродна

Першапачаткова Волчака абвінавацілі па артыкуле 72 старога КК БССР, які прадугледжваў да 10 гадоў зняволення. Пазней, аднак, яму паступіла прапанова ад следчага: «падслухоўваць іншых зняволеных у СІЗА МДБ», то бок — стаць «стукачом»... Волчак адмовіўся.

«Мне адказалі, што сваёй адмовай я зрабліо сабе толькі горш. На наступны дзень мой следчы разам з пракурорам «па спецсправах» адвялі мяне ў пусты пакой турмы і заявілі, што я «захоўваў» згаданую талерачку і часопісы таксама ў часы нямецкай акупацыі, таму акрамя артыкула 72, яны дададуць мне яшчэ пункт 6 гэтага артыкулу, які дапускае пакаранне да 25 гадоў. На практыцы гэта значыла, што за адмову быць даносчыкам у сутарэннях МДБ мне дададзена яшчэ 15 гадоў лагераў».

## «Уся гэтая мярзота трывала 12–15 хвілін... Палёгка»

А далей быў суд, дзе таксама не абышлося без здзекаў і вытанчанага цынізму. Паводле Волчака, тымі днямі ўся камера пакутавала ад крывавага паносу. У суд яго павезлі, нягледзячы на просьбы дазволіць хаця б змяніць бялізну... Вельмі падобна на дакладны разлік: у такім стане ахвяра нават і думаць пра супраціў не будзе.

«Завялі мяне ў цесны пакойчык закрытага суду, дзе мяне ўжо чакалі. Судзячыя адчынілі фортку, зрабілі некалькі дурных заўваг на мой адрас, задалі некалькі пытанняў (...), затым старшыня зачытаў хуткавымаўлянкай падрыхтаваны вырак з павышэннем голасу на слова «10 гадоў» і «25 гадоў», жаўнеры канвою хутка выштурхалі мяне ў калідор і павезлі зваротна. Я нават адчуў палёгку, што гэтая мярзота працягвалася не болей за 12–15 хвілін і ў мяне было больш надзеі на лазню і змену бялізны — я ўжо быў асуджаны».

Далей Волчак трапіў у перасыльную турму ў Оршы, дзе яго напаткала чарговая злыбяда. Сукамернікам апынуўся чалавек, які стаў выпадковым сведкам забойства дзяўчыны падчас допытаў... Неймаверна, але знайшлося трое сукамернікаў, у тым ліку Волчак, якія напісалі з гэтай нагоды рэспубліканскаму пракурору. Цяжка паверыць, што людзі надалей верылі ў «моц закону», але, магчыма, гэта і была для іх адзіная змога наўпрост застацца людзьмі: не маўчаць.

Зразумела, былі наступствы: усю тройку развялі па іншых камерах, больш яны ніколі не сустракаліся. Зусім хутка Волчака адправілі «сталыпінскім вагонам» на Мурманск. Толькі праз год, згодна аўтару, ён даведаўся, што менавіта дзякуючы свайму звароту ён атрымаў не звычайны лагер, але — з «цяжкім рэжымам».

## Халоднае лета 1953-га

Далей быў лагер, але яго Міхаіл Волчак не апісвае ва ўсіх падрабязнасцях: «Немэтазгодна ўзгадваць пра ўсе жахі свайго адносна непрацяглага знаходжання ў лагерах...» Напрыканцы траўня 1953 года па пратэсце генпракурора Генеральная калегія па крымінальных справах ВС СССР знізіла меру пакарання да 5 гадоў і вызваліла вязня ад далейшага адбыцця пакарання. Знятая была параза ў правах, Волчак змог вярнуцца ў Гродна.

«Сказалі мне аб гэтым толькі 10 ліпеня 1953 года — у дзень, калі Берыя быў аб'яўлены ворагам народу і пануючыя нада мной супрацоўнікі ўсёмагутных органаў часова разгубіліся. Каб тое не здарылася з Берыям, мне справакавалі б яшчэ «лагерны артыкул», каб усё ж такі не выпусціць мяне, калі я ўжо ведаю пра іх злачынствы...»

Як бачым, выхад на волю апынуўся для Волчака падарункам лёсу, у якім ролю адыгралі два фактары: зніжэнне тэрміну да 5 год і «берыеўская амністыя», якой падлягалі адно тыя, хто меў "пяцёрку" ці менш. Як мы памятаем з фільму «Халоднае лета 1953-га», збольшага пад тую амністыю трапілі акурат крымінальнікі, а «палітычныя» працягвалі сядзець да 1956–1957 гадоў: пры такім раскладзе Волчак мог бы і не вярнуцца дадому.

## Сутарэнні «Замку» Кафкі

Нават няпоўныя два гады ў лагеры адбіліся на здароўі: хворыя ныркі, слабы зрок, пастаянныя болі ў хрыбце... У Гродне Волчак некалькі разоў змяняў працу, лячыўся, спрабаваў дамагчыся інваліднасці і льготаў — усе нюансы адлюстраваныя ў ягоным машынапісе. Разышоўся з жонкай, хоць менавіта яе лісты ў Генпракуратуру, магчыма, паскорылі вяртанне мужа ці наогул уратавалі яму жыццё... Паранойя і хранічны недавер — невылечныя хваробы, якія ахвяра сістэмы выносіць з лагеру і захоўвае на ўсё жыццё.

Паперы дазваляюць меркаваць, што Волчак да скону верыў у літару закона і дамагаўся сваімі зваротамі ў дзяржструктуры. Нават у 1980-х гадах ён працягваў пісаць, каб яму выдалі пасведчанне ўдзельніка вайны (ён паспеў паваяваць у складзе ІІ Беларускага фронту і дэмабілізаваўся толькі ў 1946-м) і ўзнагароды: вайсковыя медалі і падзякі былі сканфіскаваныя падчас вобшуку.

Гэта — феномен чалавека, які большую частку жыцця пражыў у краіне, дзе ўсё вырашаюць паперкі, фактычна, у «Замку» Кафкі. Вось ён і спрабаваў жыць па правілах сутарэнняў замку: ад скаргі па забойству дзяўчыны падчас допыту ў 1951-м да ліста ў ваенкамат наконт вяртання медалёў у 1982-м.

Памёр Міхаіл Волчак, верагодна, напрыканцы 1980-х. Дакладна меў пляменніка, а вось пра дзяцей нічога невядома. Яго архіў у 1990-я гады быў знойдзены ў адным з закінутых дамоў Гродна і асеў у мясцовых калекцыянераў, каб загаварыць толькі зараз. Месца пахавання Міхаіла Волчака невядомае.

# Беларускія «дзікавосы»: Вуліцы і іх назвы (частка 2)



Таццяна ПРОЦЬКА

**Працяг. Пачатак у № 23**

**Назвы вуліц Мінска найперш з'яўляліся часткай дзяржаўнай ідэалогіі і мелі задачу ідэалагічнага выхавання. Заўважу, што перанесці ідэалогію ў паўсядзённы побыт чалавека такім чынам — не вынаходніцтва бальшавікоў.**

У Мінску гэта пачалося з 1840-х гадоў і праявілася на поўную моц у 1860-я Тады, пасля паўстання Кастуся Каліноўскага, шмат вуліц Мінска, якія так ці інакш мелі напамін, звязаны з паўстаннем альбо з каталіцтвам, былі перайменаваны на праваслаўны і імперскі лад. Францысканская стала Губернатарскай, Дамініканская — Петрапаўлаўскай, Феліцыянаўская — Багадзельнай і гэтак далей. Але толькі тры вуліцы былі названыя ў гонар людзей. Вуліца Захар'еўская названая ў гонар першага грамадзянскага губернатара Мінска ў 1796–1806 гадах, Захара Карнеева, дакладней, у гонар святога Захарыя, па якім калісьці будучага губернатара назвалі. Вуліца Скобелева названая ў гонар расійскага генерала, удзельніка сярэдне-азіяцкіх заваёў Расійскай імперыі і Руска-турэцкай вайны, вызваліцеля Балгарыі — таму, што ён пэўны час жыў у доме на гэтай вуліцы. І Пушкінская — у гонар 100-годдзя з дня нараджэння паэта.

Традыцыя змяняць назвы вуліц на карысць новых сімвалаў і ідэалаў захавалася, і нават расквітнела, у гады савецкай улады. Гэта была цэнтралізаваная маскоўская ініцыятыва, якая тычылася не толькі вуліц — назвы змянялі нават гарады і мястэчкі. Каб праславіць і зацвердзіць аўтарытэт новых кіруючых дзеячаў, іх сталі шанаваць яшчэ пры жыцці, даючы гарадам (і асабліва вуліцам) іх прозвішчы. Першае масавае перайменаванне вуліц адносіцца да 1922 года, калі стала зразумела, што савецкая ўлада ў Беларусі «ўсур'ез і надоўга».

Але ўжо на пачатку 1930-х робіцца відавочна, што былыя героі, як пісаў Маякоўскі, «ветшают как платье». Вуліцы сталі перайменоўваць нанова.

Сёння цэнтр Мінска захаваў савецкае аблічча — і не толькі дзякуючы архітэктурнаму стылю, які называюць «сталінскі ампір». Ён захаваўся ў назвах галоўных цэнтральных вуліц сталіцы.

У БССР былі дзве ўстойлівыя традыцыі для назваў вуліц — ушаноўваць расійскіх (пераважна, з цэнтральных органаў улады) дзеячаў пры жыцці, і беларускіх — адразу пасля смерці, асабліва заўчаснай ці раптоўнай. Апошняя традыцыя захавалася да пачатку 1990-х гадоў.

Але галоўныя «дзікавосы» Мінска — не пераважна савецкія назвы цэнтральных вуліц. Выклікае непаразуменне выбар асобаў, памяць пра якіх павінна захавацца, як казалі пры назве вуліцы, «у сэрцы беларускіх грамадзян і яе жыхароў».

## Каты

Вуліца Сядых, названая ў гонар ураджэнца Курска, расійскага партыйнага дзеяча Васіля Сядых, які з 1937 года займаў пасаду старшыні Полацкага акруговага выканкама, потым стаў сакратаром Партыйнай калегіі пры ўпаўнаважаным Камісіі партыйнага кантролю пры ЦК ВКП (б) па БССР, а ў 1939–1941 гадах з'яўляўся старшынёй Вярхоўнага суда БССР. Менавіта падчас яго кіравання судом была ажыццёўлена адна з самых масавых і важных па сваіх наступствах рэпрэсій супраць беларускага сялянства — так званае «сцягванне» хутароў, ці проста іх вынішчэнне, кампанія па высяленні з тэрыторыі Заходняй Беларусі «асаднікаў і леснікоў».

Вуліца Гікалы, названая ў гонар Мікалая Гікала, ураджэнца Адэсы, які з 1932 па сакавік 1937 года быў першым сакратаром КП(б)Б (да гэтага — сакратаром бальшавіцкай партыі Узбекістана і Азербайджана). Пад кіраўніцтвам Гікалы праходзіла барацьба з так званымі «кулакамі» і іх вынішчэнне, барацьба з «нацыянальна-буржуазнай беларускай інтэлігенцыяй». Не шкадаваў Гікала і аднапартыйцаў — пры ім былі праведзены самыя маштабныя і жорсткія «чысткі» КП(б)Б. Гікала асабіста ўваходзіў у склад «троек», якія выносілі расстрэльныя прысуды.




Паводле афіцыйных лічбаў, у гады калектывізацыі з Беларусі былі высланыя ў «аддаленыя раёны СССР» да 200 тысяч чалавек. На 17 з'ездзе ВКП(б) у 1934 годзе Гікала рапартаваў: «Таварышы, на самай справе, пачынаючы з 1924 года і, далей, працягваючы 1926, 1928, 1930, 1932 і 1933 гады, у нас у Беларусі былі сістэматычныя рэцыдывы праявы так званага нацыянал-дэмакратызму. Па сутнасці справы нацдэмакраты — гэта самыя сапраўдныя контррэвалюцыйныя элементы, звязаныя, дакладней, маючыя непасрэдную апору ў Савецкай Беларусі ў кулацтва, у буржуазнай інтэлігенцыі, якая да сённяшняга дня ў пэўнай сваёй частцы да нас не прыйшла, якая сваю непасрэдную сувязь трымае з замежнымі сіламі, у свой час была звязаная з польскай дэфензівай, з польскімі фашыстамі, а на сённяшні дзень больш, безумоўна, звязаная з фашыстамі Германіі, у асаблівасці пасля прыходу іх да ўлады. Гэтыя нацдэмаўскія контррэвалюцыйныя элементы сваю контррэвалюцыйную працу разгарнулі амаль такімі ж метадамі, як і на Украіне. У нас у органах Наркамасветы, у Акадэміі навук, у цэлым шэрагу інстытутаў, у Наркамземе, у Трактарацэнтры туліліся гэтыя контррэвалюцыйныя і шкодніцкія нацыяналістычныя элементы».




У 1938 годзе Гікала быў расстраляны — савецкая сістэма перыядычна ачышчалася ад найбольш адыёзных фігур.

Вуліца Шаранговіча, хоць і не знаходзіцца непасрэдна ў гістарычным цэнтры Мінска, але і не зусім на ўскраіне. Названая ў гонар ураджэнца Беларусі Васіля Шаранговіча, які ўзначальваў Кампартыю Беларусі ў 1937 годзе (з сакавіка па 17 ліпеня). Лічыцца (так напісана на мемарыяльнай дошцы, усталяванай на адным з дамоў гэтай вуліцы) «адным з арганізатараў партызанскай барацьбы ў Беларусі ў гады грамадзянскай вайны». На самай справе было інакш.




Былыя паплечнікі Шаранговіча ўспаміналі пра яго партызанства: «Гікала ведаў, што сярод беларусаў Шаранговіч карыстаецца пэўнай папулярнасцю і аўтарытэтам, таму пастараўся перацягнуць яго на свой бок, падпарадкаваць свайму ўплыву. Гэтага ён дамогся даволі хутка. Пачалося з таго, што па загадзе Гікалы Шаранговічу сталі прыпісвацца заслугі, пра якія ніхто раней не чуў. Прапаганда даволі хутка зрабіла Шаранговіча кіраўніком партызанскага руху ў Беларусі падчас савецка-польскай вайны.

Па ўказанні Гікалы знайшліся паслужлівыя камуністы, якія пачалі збіраць подпісы на заявах з просьбай узнагародзіць Шаранговіча ордэнам за яго былыя заслугі. У выніку гэтай кампаніі пры падтрымцы «з месцаў» праз дванаццаць гадоў пасля «партызанскіх подзвігаў» Шаранговіч быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга, які на той час быў самай высокай ваеннай узнагародай. Сапраўдныя партызаны такой несправядлівасцю былі засмучаныя і адчулі, што мала мець заслугі і подзвігі, патрэбныя яшчэ пратэкцыя і апякунства. Гэтым спрытным крокам Гікала разбіў кансалідацыю кіруючай плыні беларускіх камуністаў, а Шаранговіча цалкам падпарадкаваў свайму ўплыву».

**Традыцыя змяняць назвы вуліц на карысць новых сімвалаў і ідэалаў расквітнела ў гады савецкай улады. Гэта была цэнтралізаваная маскоўская ініцыятыва, якая тычылася не толькі вуліц. Каб праславіць кіруючых дзеячаў, іх сталі шанаваць яшчэ пры жыцці, даючы гарадам, мястэчкам і вуліцам іх прозвішчы**

Узгадаю, што за непрацяглы час свайго кіраўніцтва Шаранговіч паспеў выкрыць «антысавецкае падполле» ў БССР (глядзіце НЧ №№ 41,43,46,48 за мінулы год), напісаў ліст Сталіну з прапановай расстраляць тры тысячы «кулакоў» (з 12 тысяч), якія павінны былі вярнуцца пасля сібірскай высылкі, астатніх выслаць зноў у Сібір. Іронія лесу — у 1938 годзе Шаранговіч быў расстраляны як польскі шпіён

Вуліца Гамарніка, названая ў гонар Яна (Якава) Гамарніка, ураджэнца ўкраінскага горада Жытомір, савецкага партыйнага дзеяча. У БССР быў з лютага 1928 года па кастрычнік 1929 года на пасадзе першага сакратара ЦК КП(б) Беларусі. З'яўляўся арганізатарам калектывізацыі БССР, ініцыятарам добраахвотна-прымусовага перасялення беларусаў на Далёкі Усход.

Па ўспамінах людзей, якія асабіста ведалі Гамарніка, «Ян Гамарнік заўсёды быў у першых шэрагах актыўных змагароў за ленінскую лінію партыі. Ён выступаў супраць апартуністаў, буржуазных нацыяналістаў, згоднікаў і малавераў». З лістапада 1929 года Гамарнік — член Аргбюро ЦК ВКП(б). Узначаліў чыстку палітычнага складу РККА ад «былых белых». Для арышту органамі НКУС абавязкова трэба было браць дазвол Варашылава або Гамарніка, ні адзін арышт не мог прайсці міма яго; быў адным з галоўных арганізатараў рэпрэсій у РККА. Гамарнік не толькі санкцыянаваў выдаленне з войска камандных кадраў па прадстаўленні НКВД, але і сам выяўляў «ініцыятыву», звальняючы з войска афіцэраў на падставе даносаў. Менавіта праз яго праходзіла сувязь паміж кіраўніцтвам Наркамата абароны і органамі дзяржаўнай бяспекі.

Трэба адзначыць, шмат з тых, хто пачынаў рэпрэсіі, самі былі расстраляныя ці скончылі жыццё самагубствам. Дзіўосным з'яўляецца тое, што ў Мінску ўвекавечаныя і асобы, якія давалі дазвол на арышты і расстрэлы, і тыя, каго расстралялі. Ёсць вуліца імя Будзённага, які пры разглядзе справы маршала Тухачэўскага пісаў, што таго трэба пакараць смерцю. Пазней Будзённы ўвайшоў у склад камісіі, якая прысудзіла Тухачэўскага да расстрэлу. Вуліца імя Тухачэўскага таксама ёсць у Мінску.

Значна горш у Мінску з ушанаваннем сапраўдных ахвяр рэпрэсій — калі не лічыць за ахвяр тых, хто гэтыя рэпрэсіі пачынаў ці ажыццяўляў. Больш за 30 гадоў грамадскасць змагаецца за захаванне месца масавых расстрэлаў — Курапаты, і стварэнне там Мемарыяла памяці. Людзі, родныя якіх былі расстраляныя падчас рэпрэсій, не ведаюць, дзе гэтыя родныя пахаваныя — архівы КДБ такую інфармацыю не прадастаўляюць.

Але ёсць надзея, што беларускія «дзікавосы» скончацца — хоць, мабыць, не так хутка, як хацелася б. Канстанцін Варашылаў падпісаў не менш за 185 так званых «расстрэльных спісаў», у якія былі ўключаныя амаль 20 тысяч чалавек. Ён быў ушанаваны ў назве мінскай вуліцы яшчэ пры жыцці. Але зараз такой вуліцы ў сталіцы няма. Яна ціха знікла падчас чарговых пераназоваў...

**Працяг будзе**

# Каму муляюць вочы крыжы ў Благаўшчыне?

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Пакуль увага грамадзянскай супольнасці накіравана на змаганне за Курапаты, у іншым месцы масавых расстрэлаў прыбралі ўсталяваныя актывістамі крыжы.**

— Мой шлях з працы праходзіць праз паварот на Благаўшчыну, я часта бываю там, вось і нядаўна вырашыў заехаць. Адразу пайшоў глядзець крыжы, усталяваныя грамадскасцю. Яшчэ месяц таму ўсе яны — крыж у памяць аб палітвязнях мінскіх турмаў, расстраляных у чэрвені 1941 года, крыж ад Руху салідарнасці «Разам», усталяваны на пачатку гарадскога сметніку, які навяліла дзяржава ў 1950-х гадах на магілах закатаваных чэкістамі і нацыстамі людзей, а таксама крыж айцу Вінцэнту Гадлеўскаму — былі на месцы. Але гэтым разам ніводнага з іх ужо не было, — распавёў «Новаму Часу» грамадскі актывіст Яўген Батура.

Таксама, па словах актывіста, яго непрыемна ўразіла тое, што спілавалі дрэвы ў месцы, дзе прыезджыя з Нямеччыны вешалі таблічкі з інфармацыяй пра сваіх загінулых у Трасцянцы ад рук нацыстаў сваякоў. Засталіся толькі тыя дрэвы, на якіх былі прымацаваныя шыльдачкі.

## Правалы ў памяці

Малы Трасцянец — чацвёрты ў свеце нацысцкі канцэнтрацыйны лагер па колькасці ахвяр. Аднак гэта месца не толькі фашысцкіх зверстваў. Даследчык савецкіх рэпрэсій 1920–1950-х гадоў Ігар Кузняцоў адзін з першых стаў пісаць пра тое, што ў Трасцянцы адбываліся савецкія расстрэлы, і праводзіліся яны менавіта ва ўрочышчы Благаўшчына. Афіцыйная лічба закатаваных тут нацыстамі — 150 тысяч чалавек, але многія даследчыкі, абапіраючыся на архіўныя звесткі і сістэму падліку целаў з 34-х рвоў-магіл, прытрымліваюцца лічбы 70–80 тысяч. Паводле падлікаў Ігара Кузняцова, яшчэ да вайны органы НКУС расстралялі тут да 15 тысяч чалавек. У 1956 годзе на месцы гэтых расстрэлаў пачаў функцыянаваць сметнік.

— Мая галоўная версія, чаму сметнік быў насыпаны на гэтай тэрыторыі, — таму, што туды вядзе след так званага беларускага катынскага спісу. Гэта былі ваеннапалонныя, на злачынствы супраць якіх не распаўсюджваецца тэрмін даўнасці, таму месца іх знішчэння трэба было замаскіраваць асаблівым чынам, — тлумачыць Ігар Кузняцоў.




Фота НЧ

Апроч таго ў Благаўшчыне ў ноч з 24 на 25 чэрвеня 1941 года канваіры расстралялі каля 2500–3000 арыштантаў мінскіх турмаў. Да 75-х угодкаў трагедыі, 24 чэрвеня 2016 года, актывісты ініцыятывы «За ратаванне мемарыяла «Курапаты» ўсталявалі ў Благаўшчыне крыж, які прастаяў два гады і знік, па злой іроніі лёсу, прыкладна ў гэтыя ж даты.

Ігар Кузняцоў звяртае ўвагу на тое, што ў 1960-я гады мемарыялізацыя Трасцянца пачалася з зусім іншага боку, у чатырох кіламетрах ад урочышча Благаўшчына — асноўнага месца расстрэлаў.

— Мемарыяльны знак адмыслова паставілі там, каб не прыцягваць увагу да ўрочышча. І гэта сітуацыя працягваецца да сённяшняга дня: два гады таму першая чарга трасцянецкага мемарыялу была адкрыта зноў не ў Благаўшчыне, — перакананы гісторык.

Фінансаванне адкрыцця мемарыяла ў Благаўшчыне, якое адбылося 29 чэрвеня, узяў на сябе нямецкі бок. Па словах Ігара Кузняцова, на гэта выдаткавалі 10 мільёнаў еўра.

— Гэта помнік не ўсім ахвярам нацызму, а толькі яўрэям, дэпартаваным з Заходняй Еўропы. Але ў Благаўшчыне большасць расстраляных — беларускія яўрэі, таму мемарыял атрымаўся аднабаковым. Гэта прыніжэнне памяці нашых суайчыннікаў — незалежна ад таго, кім яны былі, гэта былі нашы людзі, і памяць пра іх павінна быць. Знішчэнне крыжоў — гэта варварства на дзяржаўным узроўні, — гаворыць Ігар Кузняцоў.

## Здзек з ахвяр двух рэжымаў

У 2013 годзе сябры Руху салідарнасці «Разам» усталявалі ля падножжа ўжо закрытага сметніка крыж у памяць пра ахвяр камуністычных і нацысцкіх рэпрэсій.

— Я вельмі абураны тым, што крыжы знесены. Я лічу, што гэта акт вандалізму, здзек з ахвяр як нацысцкага рэжыму, асуджанага Нюрнбергам, так і камуністычнай сістэмы, — каментуе сітуацыю сябра Сойму Руху салідарнасці «Разам» Вячаслаў Сіўчык.

Трасцянецкі лес вядомы яшчэ адной трагедыяй — 24 снежня 1942 года фашысты забілі тут аднаго з заснавальнікаў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі і кіраўніка беларускага нацыянальнага супраціву нацызму ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага.

Разьбяны крыж у памяць пра святара быў асвечаны ў Благаўшчыне ў снежні 2010 года. Гісторыя ўсталявання гэтага крыжа была няпростай. Ён мусіў паўстаць яшчэ ў 2006 годзе, і грамадскасць вельмі спадзявалася, што гэту справу возьме на сябе Каталіцкі Касцёл. Аднак падчас запланаванага ўсталявання крыжа яго разам са святаром проста не пусцілі ў Благаўшчыну, а людзей, якія меліся ўдзельнічаць у імпрэзе, затрымалі. Праз два гады грамадскія актывісты здолелі самастойна ўсталяваць крыж на тым самым месцы, дзе загінуў айцец Гадлеўскі. Яго аўтар — вядомы беларускі мастак Алесь Цыркуноў, ідэя належала і была рэалізаваная рухам салідарнасці «Разам» і кіраўніком клуба беларускай інтэлігенцыі «Спадчына» Анатолем Белым.



— Да гэтага часу спецслужбы працуюць супраць памяці гэтага выбітнага беларуса, які прыняў пакутніцкую смерць ад рук нацызму, — упэўнены Вячаслаў Сіўчык. — Я лічу, што абсалютна недапушчальныя тыя акты вандалізму, якія здзяйсняе цяперашні рэжым. Гэта не толькі знос крыжоў у Трасцянцы, але і адкрыццё рэстарацыі на костках у Курапатах.

## Нязручныя пытанні

Усталяваныя грамадствам крыжы былі напамінам пра тое, што ў Благаўшчыне мелі месца не толькі нацысцкія злачынствы. Суразмоўцы «Новага Часу» звязваюць знікненне крыжоў з прыездам на афіцыйнае адкрыццё мемарыяла кіраўнікоў прэзідэнцкай дэлегацый чатырох краін.

Відавочна, убачыўшы драўляныя крыжы, удзельнікі ўрачыстасці сталі б задаваць пытанні: чаму крыжы стаяць у гэтым месцы, каму яны прысвечаны і як увогуле хрысціянскі сімвал апынуўся на месцы яўрэйскай трагедыі? Адказы на гэтыя пытанні беларуская ўлада хавае ад самой сябе, што ўжо казаць пра міжнародную супольнасць...

Прыклад мемарыялізацыі Благаўшчыны мімаволі выклікае паралелі з Курапатамі. Калі дзяржаве муляе вочы народны помнік, і яна цішком аддае загад яго знішчыць, ці бяспечна даручаць ёй мемарыялізацыю самага вялікага месца знішчэння народа Беларусі?..



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №348

Падпісана да друку 06.07.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.